© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Polacak

Published with the financial support of parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.

Друкуецца пры фінансавай дапамозе царквы Жыровіцкае Божае Маці, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, г. Кліўленд, штат Агаё.

Рэдакцыйная калегія: **Сьвятлана Белая** (рэдактар), **Міхась Белямук** (сакратар), **Янка Салавянюк** (мастак), сябры -- **Сяргей Карніловіч, Іна Каханоўская, Вольга Дубаневіч (МакДэрмат), Лідзія Лазар--Ханенка, Янка Ханенка.**

Editorial board : **Svetlana Belaia** (Editor), **Michael Bielamuk** (Secretary), **Jan Solowienuk** (Artist), Members **-- Serge Karnilovich, Ina Kachanovski, Olga Dubanevich (Mc Dermott), Lydia Lazar-Chanenka, Yanka Chanenka.**

Ганаровыя сябры рэдкалегіі: **Анатоль Белы, Іосіф Юхо.**

Прозвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence shoud be adressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# Зьмест



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# У добры час!

Калектыў рэдакцыі й чытачы старэйшага беларускага літаратурнага часопіса «Полымя» рады таму, што ў час нацыянальнага адраджэньня Айчыны далёка за акіянам ў нас зьявіўся сябра — часопіс «Полацак». Шчыра, сардэчна жадаем новаму беларускаму выданьню шчасьлівай дарогі, а ягоным супрацоўнікам творчага натхненьня ў высакароднай справе далучэньня суайчыньнікаў да роднай мовы, да духоўнай скарбніцы нашага народа.

Яшчэ адзін раўчук --
жывы, вясновы --
Бруіць крынічнай свежасцю радка,
Каб не мялела беларускай мовы
Вялікая і светлая рака.

Цячэ, цячэ яна з грудзей Айчыны,
Над ёю ў жыце вочы васількоў...
Хай „Полацак"
узносіць дух Скарыны
І словам поіць сэрцы землякоў!

Сяргей Законнікаў

1 студзеня 1991 года



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻

У гэты цяжкі для Беларусі час, калі гэтак войстра абярнулася праблема культурнага, гістарычнага дый біялягічнага выжываньня яе народа, у такі час важна і дорага кожнае памкненьне на яе карысьць. Таму дорага і памкненьне беларусаў далёкай для нас Заакіяньшчыны стварыць свой нацыянальны часопіс са сьвятой для ўсяе Беларушчыны назовай «Полацак», горада зь якога пачалася наша гісторыя і наш лёс. Ад імя згуртаваньня беларусаў сусьвету «Бацькаўшчына» і ад сябе як ад асобы я зычу шчасьлівага пачатку й трывалага посьпеху гэтаму выданьню.

Хай квітнее «Полацак»! Жыве Беларусь!

Васіль Быкаў,
народны пісьменьнік Беларусі,прэзыдэнт
згуртаваньня беларусаў «Бацькаўшчына».

Часопісу „Полацак"

Можа магдэбурыцца і мэрыцца
Крыўскае імя спрадвеку наскае.
— Полацак! — гукаю
І ў Амэрыцы
„Полацак" — адказ я чую з ласкаю.

Крыўскае, сьвятое не змаскалілі,
Захавалі землякі з пашаю.
Спарыш і ў кожны ліст, і ў каліва!
Палата ўздыхае акіянава.

Усіх чытачоў, фундатараў-спрыяльнікаў,
выдаўцоў часопіса „Полацак"
У слаўным месце Клівлендзе
віншую ад імя сяброў беларускага
ПЭН-цэнтру!

Менск, 90

Рыгор Барадулін

✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻✻



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*************************************

На абшары роднай Беларусі апускаецца бялюткі, як нашы надзеі, сьнег 1991 года. Хай прынясе ён нам, на Бацькаўшчыне й ў дыяспары, у кожны беларускі двор, зарод і прыплод, спадзяваньні дабра, шчасьця, сардэчнай радасьці, сяброўскай узаемадапамогі паміж намі — суродзічамі й супляменьнікамі.

Насуперак няпраўдзе, зь яе цемры й забыцьця, выходзіць штодня да свайго народа яго Гісторыя. Забітая, скалечаная, затаптаная сталінісцкімі ботамі, абылганая й згвалчаная, яна паўстае з каленяў і выпростваецца ва ўвесь свой волатаўскі рост. Як кароста ад здаровага цела, адвальваюцца ад яе ўсе надуманыя — «ізмы», подлая хлусьня й бальшавіцкія забабоны. Прыйдзе — а ён ужо ідзе! — той час літасьці Боскай, калі скрозь дзірван родных гістарычных палеткаў, узараных і дагледжаных нашымі сумеснымі намаганьнямі, нашымі руплівымі рукамі, праб'юцца да сьвету, да праўды, да людзей кветкамі нашай гісторыі й уквецяць непаўторнае бялюткае, кужэльнае палатно нашай мінуўшчыны, сатканае сотнямі пакаленьняў беларусаў. І тады ўсе мы дружна рушым на сьвята нашай роднай маці — зямелькі, сьвята яе і нашага радавода, які не зьнікне ўжо ў будучых вяках. З намі на гэтым вечы будуць усе ратаборцы, хто аддаў жыцьцё за Радзіму ў баях з чужаземнай навалай, палёг у палоне сталінскіх душагубак, сканаў на Галгофе й ў бездані «чорнай дзіры» ГУЛАГу.

Ды толькі жыве й будзе жыць наш мужны, працавіты й нязломны народ, пакуль будзе ў нас свая радзіма, пакуль будуць цеч яе ціхія азёры. Пакуль будзе жыць хоць адзін беларус. А гэта — як не круці — катэгорыі вечнасьці. Няхай-жа займе сваё месца ў шыхтах Беларускага «Адраджэньня» й часопіс «Полацак». Ён носіць імя стольнага і слаўнага горада, сталіцы нашай старажытнай дзяржавы, пра якую ў XУ стагодзьдзі з гонарам казалі палачане: «А Политеск теж есьть, хвалячи Бога, место словутное, как и которое, а не есть нижшое во чести и во всем ни Вилни, а ни Мариборка, а ни Кданьска».

Дык будзем-жа дастойныя нашага Полацка, яе сьв. Сафіі, яе «Луны солнечной» - сьв. Еўфрасіньні й волата беларускага Адраджэньня Ф. Скарыны.

Каліснці , гаворачы пра Полацак, што ўладарна асеў на Дзьвіне, казалі: «Берагі ў Дзьвіны сярэбраныя, а дно залатое». Няхай рака роднай гісторыі, што пацячэ праз часопіс «Полацак», будзе мець такія-ж берагі і такое дно.

Плёну вам! З павагай і найлепшымі пажаданьнямі — Міхась Ткачоў,
габіталіваны доктар гісторыі, прафэсар, намесьнік старшыні Сойму Беларускага Народнага Фронту за перабудову «Адраджэньне».

*************************************



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# Вялікоднае прывітаньне

Хрыстос Уваскрос! Дзень Хрыстовага ўваскрашэньня — дзень Ягонай перамогі жыцьця над сьмерцю.

Ён быў прададзены сваім вучнем. Яго схапілі, фальшыва абвінавацілі, білі й судзілі, як злачынцу. Ягоныя вучні напалоханыя разьбегліся, пакінулі Яго. Яму прыйшлося трываць зьдзекі й зьнявагі натоўпу, ад тых, хто некалькі дзён таму вітаў Яго ля варот Ерусаліма: «Асанна, асанна!» Яны падзіўлялі яго за пакорнасьць і ласкавасьць, за сьветлы позірк вачэй, якія, што сонца, саграваlі душу чалавека. Цяпер стаіць Ён, адзінокі, перад іншым натоўпам, які крычыць: «Укрыжуй, укрыжуй Яго!» Аднак Хрыстос не выяўляў абурэньня. Ён маліўся, нават за тых, хто крыўдзіў яго і за тых, хто дамагаўся Ягонага ўкрыжаваньня.

Цяпер чарга за намі, ці пойдзем мы сьледам Хрыста й прабачым тым, хто нас пакрыўдзіў? Заклінаю, давайце прабачым адзін аднаму, абдымем адзін аднаго зь любоўю, з радасьцю й усклікнем: «ХРЫСТОС УВАСКРОС!»

Я й мая сям'я вітаем Вас, дарагія прыхажане царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе, вітаем усіх чытачоў часопіса «Полацак» зь вялікім сьвятам Хрыстовага Ўваскрэсеньня! Сьвяткуйма дзень Хрыстовага Ўвасрэсеньня ўрачста, як сьвяткавалі нашыя дзяды й прадзеды. Не забывайма памаліцца за нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне, Беларусі, каб у дзень Вялікадня ўсклікнулі таксама й яны: «Хрыстос Уваскрос!»

Айцец пратаярэй
Міхась Страпко
й яго сям'я





© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Вытокі нацыянальнай сьвядомасьці

Анатоль Белы



«Абыхом в добрых делехи в львви
отчины наследовали и всякого
тружании и скарбов для посполи-
того доброго и для отчины своея
не лытовали.»
справлена доктором Францыском
Скориною из славнаго града Полоцька



Праблемы патрыятызму ў гісторыі грамадзкай думкі беларускага народа займаюць выключна важнае месца. Успомнім Ф. Скарыну, які неаднойчы зьвяртаўся да абуджэньня нацыянальнай сьвядомасьці народа. У сваіх прадмовах ён падкрэсьліваў: **«Я — Францишек Скоринин сын с Полоцка града...».** У скарынінскіх творах родны горад згадваецца ім каля 50 разоў і звычайна з эпітэтам «слаўны».

Найбольш ярка ідэя служэньня радзіме праявіліся ў бліжэйшага пасьлядоўніка Ф.Скарыны — Васіля Цяпінскага. У сваёй прадмове да «Евангельля», ён выступае як палымяны прапаведнік нацыянальных і культурных інатарэсаў беларускай народнасьці. Годнасьцю за свой народ, «зацный і довстипны», што значыць разумны й вучоны, прасякнуты ўсе яго творы. У іх Цяпінскі заклікаў да адраджэньня былой славы, якая, на яго думку, згасла па віне духоўных і сьвецкіх фэўдалаў.

Працэс паланізацыі вышэйшых колаў беларускай знаці выклікаў пратэст асьветніка. Ён настойліва заклікаў верна служыць сваёй зямлі: «...**И з тою потребою отчизны.., если она до конца згинет, з нею згинуть, або если через вашь ретунок будет выдвигнена, з вами и з нею выбринуть».**[1]
Гэтая тэма знаходзіць далейшае разьвіцьцё ў палемічнай літаратуры, што зьявілася ў Беларусі пасьля царкоўнай вуніі 1596 г. У адпаведнасьці з ёю, праваслаўныя канфэсіі Беларусі й Украіны трапілі пад духоўную ўладу папы рымскага. Сам акт прыняцьця вуніяцтва зьяўляўся своеасаблівым замахам на сфарміраваныя этнічна-



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

моўныя, культурныя, бытавыя й канфэсіянальныя нормы. Большасьць праваслаўнага насельніцтва пратэставала супраць Берасьцейскай вуніі. Барацьба за веру зьяўлялася часткай барацьбы за нацыянальнасьць і самабытнасьць. Ва ўсіх беларускіх гарадах утварыліся брацтвы. Яны вялі барацьбу супраць акаталіч ваньня й апалячваньня. Найбольш вядомымі ідэёлягамі былі Мялецій Сматрыцкі, Лявонцій Карповіч, Афанасій Філіповіч. Сваімі вострымі палемічнымі словамі яны выкрывалі й крытыкавалі «уніятаў и усіх улад рымскіх», духоўных і сьвецкіх асобаў, якія па выказваньню А.Філіповіча **«згола в зверев и птахов драпежных ся перекинули и подобными стали, а праве юж и над зверов подданых своих и убогих людей драпежать и над ними ся збыткуюць».** [2]




У рамках беларускага этнасу таго пэрыяду было распаўсюджана праваслаўе, вуніяцтва й пратэстантызм розных напрамкаў . Яны ахоплівалі ўсе сацыяльныя групы — ад магнатаў і шляхты да гарадзкіх нізоў і прыгонных сялян. Паступова суадносіны розных рэлігійных напрамкаў зьмяняюцца на карысьць каталікоў і вуніятаў.

Каралеўскі двор адкрыта падтрымліваў каталіцкую царкву. Дзейнасьць праваслаўных брацтваў, якія зьяўляліся магутнай сілай народа, спыняецца ў ХУШ стагодзьдзі.У канцы ХУІ ст. працэс паланізацыі захапіў спачатку пануючыя клясы, магнатаў, заможную шляхту, а пазьней і гарадзкія вярхі. Гэты працэс у ХУІІ — ХУШ стст. балюча закрануў умовы беларускага насельніцтва. Статут 1588 г. патрабаваў, каб пісар земскі пісаў толькі «па-руску», але у ХУІІ стагодзьдзі гэтае патрабаваньне выконвалася толькі фармальна. Арыстакратыя Вялікага княства Літоўскага часта падпісвалася пад дакумэнтамі па-польску або на польскі манер. У 1696 г. была прынята пастанова, каб агульнадзяржаўнай мовай Рэчы Паспалітай была польская.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Розныя ўзроўні этнічных і адукацыйных працэсаў найбольш выразна адбіліся ў этнанімічных назвах беларускага народа. Як правіла, назвы бралі пачатак ад зямельных этнанімічных значэньняў княстваў— «палачане», «віцябляне», «другачане», «тураўцы», «случане» і інш. Яны, безумоўна, адлюстроўвалі пачатковую стадыю кансалідацыі насельніцтва. Вось чаму да сярэдзіны XX ст. у беларусаў не склалася адзінай саманазвы народа.



Форма «литвины» мела найбольш стабільнае распаўсюджаньне асабліва ў заходняй і цэнтральнай Беларусі. Ва ўсходняй Беларусі назоў «литвины» часта замяняўся паняцьцем «руски народ» або «русины». Назва «русины» ў канцы ХУІ — ХУП стст. часткова на Смаленшчыне, а пазьней на Полаччыне, Магілёўшчыне, Віцебшчыне трансфармавалася ў назву «беларусцы» Дарэчы, існаваў і этнонім насельніцтва «тутэйшыя». **«Мы тутэйшыя, наша страна ні руска, ні польска, але «забраны край!»**[3] Такая структурна-герархічная ўзаемасувязь форм нярэдка выражалася некалькімі назвамі. Напрыклад, той-жа Ф.Скарына за мяжой называўся то «литвином», то «руским», то «полочанином».

Аднак, першай і асноўнай прычынай, якая адмоўна паўплывала на фарміраваньне нацыянальнай самасьвядомасьці беларускага народу, было эканамічнае зруйнаваньне краіны шматлікімі войнамі другой паловы ХУІІ — першай паловы ХУШ стагодзьдзяў. Так, у выніку вайны Рэчы Паспалітай з Масквой (1648—1667 гг.) насельніцтва Беларусі паменьшылася напалову. Пад час Паўночнай вайны са Швэцыяй (1700—1721 гг.) з 3 млн. чалавек засталося 1,8 млн. Гэтыя войны прывялі да эканамічнага крызісу, з якога край ня здолеў выйсьці на працягу цэлага стагодзьдзя. Калі Беларусь апынулася ў складзе Расейскай імпэрыі, паланізаваная мясцовая знаць па-ранейшаму ўтрымлівала свае пазіцыі ў эканоміцы. Польская мова



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

заставалася мовай адміністрацыі. Сваю моц захоўвала каталіцкае духавенства. У выніку палітыкі заігрываньня са шляхтай, апалячваньне беларусаў ўзмацьнілася.

Індыфэрэнтнасьць да нацыянальных пытаньняў выявілася пры Мікалаі І. У 1840 г. манарх забараніў назву «Беларусь» і ўвёў тэрмін «Северно—Западный край России». Беларусаў у афіцыйных дакумэнтах пачалі называць «западнорусами».



Пачаўся працэс русіфікацыі. Царызм імкнуўся зьнішчыць саму тэрміналёгію, якая нагадвала аб нацыянальнай своеасаблівасьці. Паўсюдна ўводзіліся расейская мова й расейскае законадаўства, была паскорана замена мясцовага чыноўніцтва на расейскае. А 12 лютага 1839 г. усе вуніяты пераводзіліся ў праваслаўных. Царква пачала богаслужэньне па-расейску. У адказ дэмакратычныя сілы Беларусі аб'ядноўваліся ў тайныя таварыствы. Найбольш значныя зь іх дзейнічалі ў Віленскім унівэрсытэце (філяматы), Свіслацкай гімназіі, Полацкім піарскім вучылішчы. У 1836 г. Ф.А. Савіч заснаваў у Вільні «Дэмакратычнае таварыства», якое ўстанавіла сувязь са Слуцкам і Пінскам, з аддзеламі тайнага таварыства «Садружнасьць польскага народу».

У 1846— 1849 гг. дзейнічала тайная арганізацыя «Саюз свабодных братоў» (цэнтр быў у Вільні) і інш. Нелегальна распаўсюджвалася друкаваная й рукапісная літаратура. Аднак у асноўным, гэтыя таварыствы мала зьвярталіся да беларускіх нацыянальна-вызваленчых ідэяў. Вельмі абмежавана й непасьлядоўна яны адносіліся да пытаньняў нацыянальнай самасьвядомасьці народу. У многіх выпадках яны не выходзілі за межы агульнапольскага руху.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

беларускіх літаратараў, публіцыстаў і дзеячоў культуры—Ян Баршчэўскі, Паўлюк Багрым, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Вінцэсь Каратынскі, Адам Плуг, Вікенцій Равінскі, Аляксандр Рыпінскі, Ян Чачот. У музыцы — Станіслаў Манюшка й Антон Абрамовіч. Ім выпадала закладваць асновы новай нацыянальнай літаратуры, узьнімаць мову прыгнечанага селяніна да ўзроўню літаратурнай. Зьяўленьне іх было гістарычна абумоўлена паступовым фарміраваньнем беларускай нацыі. У творчасьці большасьці названых пісьменьнікаў беларускія творы не займалі галоўнага месца, іх дзейнасьць хутка спынілася, часам нават насільна. Як прыклад — лёс паэта-селяніна Паўлюка Багрыма. Толькі Дуніну—Марцінкевічу ўдалося стаць прафэсіянальным беларускім літаратарам. Ён сьвядома на працягу многіх гадоў пісаў свае творы па-беларуску, настойліва шукаў і знаходзіў магчымасьці для друкаваньня: **«...Я пад старасьць зрабіўся песьняром беларускага народа»**[4] — не бяз годнасьці пісаў ён пра сябе. Уся яго дзейнасьць была прасякнута абаронай свайго народу, ягонай мовы й культуры. Ён пісаў: **«Атчызна. —Зямля, на каторай мы радзіліся, каторую ўпраўляем сваёй працай, на каторай пахаронены косьці бацькоў, дзядоў дый праатцоў нашых, паветрыя, каторым мы атдыхаем, то завецца атчызна»**[5]...

(Заканчэньне ў наступным нумары)

---

1. Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры.—Выд, Мін.асветы БССР Мн., 1959, б.201
2. Там -жа, б. 307.
3. Я.Купала. Збор твораў. —«Навука і тэхніка», Мн., 1976, т.7. б. 211.
4. Г.Кісялёў. Героі і музы.—«Мастацкая літаратура», Мн.,1987, б.9
5. Там-жа, б.8.

На здымках: Франьцішак Скарына, Васіль Цяпінскі — мастак Яўген Ціхановіч. Епіскап Полацкі Мялецій (Сматрыцкі), Ігумен Афанасій Берасьцейскі (Філіповіч)— мастак Эдуард Агуновіч.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# Akt ogłoszenia niepodległości Białorusi.

## HRAMOTA KONSTYTUCYJNA
## Rady Białoruskiej Republiki Ludowej.

Przed rokiem narody Białorusi wespół z narodami Rosji zrzuciły jarzmo caratu Rosyjskiego, który najbardziej uciemiężał Białoruś; bez zgody na to ludu rzucił on kraj nasz w płomienie wojny światowej, która doszczętu zrujnowała miasta i wsie białoruskie.

Teraz my, Rada Białoruskiej Republiki Ludowej, zrzucamy z Kraju Ojczystego ostatnie jarzmo zależności państwowej, gwałtem narzucone przez carów rosyjskich naszemu wolnemu i niepodległemu krajowi.

**Odtąd Białoruska Republika Ludowa ogłoszona jest jako wolne i niepodległe państwo.** Narody Białorusi sami przez swój Sejm Ustawodawczy, zdecydują o przyszłych łącznościach państwowych Białej Rusi.

Wskutek tego traci moc wszelka poprzednia łączność państwowa, która dała możność obcemu rządowi podpisać w imieniu Białorusi traktat Brzeski, zadający cios śmiertelny narodowi białoruskiemu, ćwiartując jego ziemię.

Na mocy tego Rząd Białoruskiej Republiki Ludowej ma się zwrócić do stron zainteresowanych, proponując im zrewidowanie części traktatu Brzeskiego, dotyczącej Białorusi i zawrze układ pokojowy ze wszystkimi wojującemi państwami.

Białoruska Republika Ludowa powinna objąć wszystkie te ziemie, gdzie mieszka i ma przewagę liczebną naród białoruski, a mianowicie: Mohylewszczyznę, części białoruskie ziemi Mińskiej, Grodzieńskiej (z Grodnem, Białystokiem i in.), Wileńskiej, Witebskiej, Smoleńskiej, Czernihowskiej i pogranicza sąsiednich dzielnic, zamieszkałe przez białorusinów.

Rada Białoruskiej Republiki Ludowej potwierdza wszystkie te prawa i wolności obywateli i narodów Białej Rusi, jakie zostały ogłoszone przez Hramotę Konstytucyjną w dniu 9 marca 1918 roku.

Ogłaszając niepodległość Białoruskiej Republiki Ludowej, Rada żywi nadzieję, że wszystkie kochające wolność narody przyjdą z pomocą narodowi białoruskiemu do zupełnego urzeczywistnienia jego polityczno-państwowych ideałów.

**Rada Białoruskiej Republiki Ludowej.**

Dana w Mińsku-Białoruskim, 25 marca 1918 roku.

---

Rada Białoruskiej Republiki Ludowej początkowo została wybrana na Kongresie Narodowym Wszech-białoruskim, który obradował 18—31 grudnia 1917 roku w Mińsku-Białoruskim. Później była ona dopełniona według instrukcji Kongresu przedstawicielami mniejszości narodowych (polaków, żydów, rosjan i in.) i miejscowych samorządów. Podczas wydania aktu 25 marca 1918 roku skład Rady był następujący: wybranych na Kongresie—36, od mniejszości narodowych - 15, od ziemstw - 10 i miast - 10, a więc razem — 71. Oprócz tego w posiedzeniu brała czynny udział delegacja Wileńskiej Rady Białoruskiej. Prezesem Rady podczas tego historycznego posiedzenia był J. SEREDA.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

О НАРОДНОМЪ СЕКРЕТАРІАТѢ.

I. До окончательнаго опредѣленія образа правленія правительственная власть въ Бѣлорусской Народной республикѣ принадлежитъ предсѣдателю Народнаго секретаріата и осуществляется имъ подъ постояннымъ контролемъ Рады Республики.

2. Предсѣдатель Народнаго секретаріата избирается Радой изъ числа ея членовъ. Никто не можетъ быть Предсѣдателемъ Народнаго Секретаріата, если онъ не бѣлоруссъ по происхожденію и въ теченіе послѣднихъ трехъ лѣтъ не имѣлъ въ Бѣлоруссіи осѣдлости или домашняго обзаведенія.

3. Предсѣдатель Народнаго Секретаріата можетъ быть переизбранъ во всякое время по требованію 2/3 членовъ Рады, заявленному въ письменной формѣ Предсѣдателя Рады.

4. Осуществляя въ полномъ объемѣ правительственную власть, Предсѣдатель Народнаго Секретаріата:

I/ назначаетъ и увольняетъ народныхъ секретарей за исключеніемъ секретаря по дѣламъ юстиціи и государственнаго контроля, избираемаго и переизбираемаго Радой Республики на основаніяхъ, указанныхъ въ ст.2,
2/ издаетъ распоряженія и приказы, необходимыя для исполненія законовъ,
3/ распоряжается средствами обороны республики и заключаетъ отъ ея имени всякаго рода международныя договоры, которыя вступаютъ въ силу лишь по утвержденіи ихъ Радой,
4/ въ случаяхъ не терпящихъ отлагательствахъ, издаетъ распоряженія, имѣющія силу закона, съ безотлагательнымъ доведеніемъ о семъ до свѣдѣнія Предсѣдателя Рады, который обязанъ вносить ихъ на разсмотрѣніе ближайшей сэссіи Рады. Распоряженія эти въ случаѣ неутвержденія ихъ Радой теряютъ силу,
5/ вноситъ на распоряженіе Рады черезъ ея Предсѣдателя всѣ правительственные законопроекты,
6/ по соглашенію съ Президіумомъ Рады созываетъ чрезвычайныя сессіи Рады и отсрочиваетъ не болѣе чѣмъ на 2 мѣсяца очередныя сессіи Рады.

5. Народные секретари, кромѣ секретаря по дѣламъ юстиціи и государственнаго контроля, назначаются въ числѣ девяти: I/ по внѣшнимъ сношеніямъ, 2/ внутреннихъ дѣлъ, 3/ обороны, 4/ финансовъ, торговли и промышленности, 5/ путей сообщенія, почтъ и телеграфовъ, 6/ земледѣлія и государственныхъ имуществъ, 7/ народнаго просвѣщенія, 8/ Труда и 9/ снабженія и продовольствія.

6. Въ Народномъ Секретаріатѣ предсѣдательствуетъ или самъ Предсѣдатель или секретарь по внутреннимъ дѣламъ. Рѣшенію Секретаріата подлежатъ всѣ дѣла Управленія, изъятыя изъ вѣдѣнія отдѣльныхъ секретарей.

7. Всѣ вопросы въ Секретаріатѣ разрѣшаются простымъ большинствомъ голосовъ но не иначе, какъ по выслушаніи заключенія секретаря по дѣламъ юстиціи и государственнаго контроля, который самъ въ голосованіи не участвуетъ. Вопросы разрѣшенные несогласно съ симъ заключеніемъ могутъ быть вносимы секретаремъ юстиціи и государственнаго контроля на разсмотрѣніе Рады при мотивированномъ протестѣ, при чемъ опротестованное рѣшеніе приводится въ исполненіе, не выжидая рѣшенія Рады.

8. Рѣшеніе секретаріата не одобренное его Предсѣдателемъ, въ исполненіе не приводится.

9. Всѣ должностныя лица секретаріата получаютъ содержаніе по штатамъ, установленнымъ Радой Республики. Предсѣдателю Народнаго Секретаріата, сверхъ установленнаго содержанія ассигнуется Радой по полугодіямъ сумма въ его единоличное распоряженіе на расходы, связанные съ исполненіемъ его должности.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

10. Перечень дѣлъ, не подлежащихъ единоличному разрѣшенію Народныхъ Секретарей, составляется Народнымъ Секретаріатомъ и утверждается его Председѣтелемъ.

11. Председатель Народнаго Секретаріата, какъ единственно отвѣтственный передъ Радой за дѣятельность Правительства, можетъ во всякое время требовать отъ народныхъ секретарей за исключеніем секретаря по дѣламъ юстиціи и государственного контроля, свѣдѣнія о состояніи ввѣренныхъ имъ частей, а также по отдѣльнымъ дѣламъ находящимся въ ихъ производствѣ.

12. Секретарь по дѣламъ юстиціи и государственнаго контроля имѣетъ постоянное наблюденіе за законностью дѣйствій должностныхъ лицъ республики и въ этихъ цѣляхъ пользуется правомъ лично или черезъ подвѣдомственныхъ ему лицъ знакомиться съ ходомъ дѣлъ въ отдѣльныхъ секретаріатахъ и въ случаѣ обнаруженія незаконности дѣйствій привлекать виновныхъ къ судебной отвѣтственности. Если усматриваются незаконныя дѣйствія, совершенныя Председателемъ Народнаго Секретаріата, то секретарь по дѣламъ юстиціи и государственнаго контроля вноситъ о семъ на разсмотрѣніе Рады, отъ которой зависитъ окончательное разрѣшеніе дѣла.

13. Председатель Народнаго Секретаріата и секретарь по дѣламъ юстиціи и государственнаго контроля отвѣтственны за свои должностныя дѣйствія передъ Радой.

14. При Народномъ Секретаріатѣ для веденія дѣлопроизводства состоитъ канцелярія, образуемая по штатамъ, утвержденнымъ въ законодательномъ порядкѣ.

15. Кругъ дѣлъ, подлежащихъ вѣдѣнію народныхъ секретарей, опредѣляется по принадлежности законами Россійскаго Государства, впредь до замѣны ихъ законами республики.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# «Узыходзіла сонца незалежнае Беларусі»

## Да абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі 25-га Сакавіка 1918 г.

(Успаміны)

Ян Станкевіч

На пачатку зімы 1917 году, дзякуючы стараньням братоў Луцкевічаў у нямецкай акупацыйнай улады, я прыехаў або, праўдзівей, мяне прывёз аўстрыяцкі ахвіцер Чэх з аўстрыяцкага палону да Вільні. У Вільні ўжо тады Беларусы мелі некаторыя няясныя ведамкі пра тое, што дзеялася ў часе вайны ў тэй большай часьці Беларусі, што засталася на ўсходзе нямецка-расейскага фронту. Прыходзілі яны кружнай дарогаю цераз Заходнюю Эўропу. Дзеля таго, што я быў— лучыўшы ў палон увосень 1917 г., дык мог гэтыя ведамкі ладне дапоўніць. Калі-ж на пачатку 1918 г. расейскі бок фронту перастаў існаваць, і нямецкая армія пайшла на ўсход, заняўшы вялікую часьць цэнтральнай Беларусі, то Беларусам у Вільні сталі ведамыя й апошнія падзеі ў цэнтральнай і ўсходняй Беларусі, зь іх найважнейшае тое, што адбыўся ў Менску вялікі ўсебеларускі зьезд, каторы абвесьціў Беларускую Народную Рэспубліку, што ёсьць Рада Беларускай Народнай Рэспублікі. Неўзабаве высьвятлілася, што хоць абвешчана Беларуская Рэспубліка, але не абвешчана яе незалежнасьць.

Да вайны 1914-18 г. Вільня была цэнтрам нацыянальна-культурнага й палітычнага беларускага руху; зь нямецкай акупацыяй, увосень 1915 г., Вільня засталася такім цэнтрам толькі для занятай Немцамі Заходняй Беларусі. Ужо ў1916 г. беларускія палітычныя арганізацыі ў сваёй дэкларацыі ў Вільні дамагаліся незалежнасьці Беларусі. Згодна з дэкларацыяй мела быць гэта аднаўленьне даўнейшага беларускага гаспадарства, званага Вялікім Княствам Літоўскім. Таксама ўходзіць у яго мела ня толькі этнаграфічная Беларусь, але й Летува, з тэй розьніцаю ад мінуласьці, што даўней Летува была правінцыяй беларускай і адно часьць яе, Жмудзь, мела аўтаномію, цяпер-жа гэта мела быць гаспадарства фэдэрацыйнае, складзенае з раўнапраўных часьцяў—Беларусі і Летувы.

Спачатку такога гаспадарства дамагаліся ў супольнай дэкларацыі ўсе краёвыя элемэнты, зн. ня толькі нацыянальна-сьвядомыя Беларусы й Летувісы, але й тыя з апалячаных Беларусаў і Летувісаў, што ўважалі сябе за Палякаў. Душою гэтае палітычнае канцэпцыі былі беларусы зь Іванам і Антонам



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Луцкевічамі на чале. Такім парадкам традыцыя беларускае гаспадарстававасьці адгукнулася нат больш за сто год пасьля зьнішчэньня беларускага гаспадарства, дарма што ранейшыя спробы яго ўзнаўленьня — у 1812 годзе, у паўстаньнях 1830—31 г. і 1863 г. —былі крывава задушаныя Масквою.

У 1917 г., адылі, Летувісы адступілі ад менаванае канцэпцыі і пачалі дамагацца незалежнасьці аднае Летувы, робячы пры гэтым нічым не абгрунтаваныя прэтэнзіі на часьць беларускіх земляў. Гэта згаджалася з палітыкаю Нямеччыны, каторая імкнулася прылучыць Летуву да Нямеччыны ў форме аўтаномнага гаспадарства зь нямецкім князем на чале, і з Расеяй пагадзіцца. Ня маючы іншага выхаду, пакуль усё залежыла ад Нямеччыны, Летувісы гадзіліся й на гэта, дарма што гэта ня было іхным ідэялам.

Нацыянальна-палітычным прадстаўніцтвам акупаванай Немцамі заходняй часьці Беларусі быў Беларускі Нацыянальны Камітэт і зь сялібаю ў Вільні. Жаданьнем Камітэту было пабачыцца з прадстаўнікамі Рады БНР, каб, галоўна, прысьпяшыць абвешчаньне незалежнасьці Беларусі. Дзеля гэтага трэба было паехаць у Менск. Дзеля таго, адылі, што палітычныя канцэпцыі Беларусаў у васобе Беларускага Нацыянальнага Камітэту не згаджаліся з канцэпцыямі Нямеччыны, нямецкая акупацыйная ўлада ў Вільні даўгі час не давала дазволу дэлегацыі Беларускага Нацыянальнага Камітэту на падарожжа ў Менск. Наапошку, дазвол быў атрыманы, і ў першай палавіне сакавіка 1918 году дэлегацыя Камітэту ў складзе Івана й Антона Луцкевічаў, Язэпа Туркевіча (віленскі работнік-сталяр), Сямашкі, начальніка гашэльнай дружыны места Вільні і аўтара гэтых радкоў паехала ў Менск. Ехалі ў адкрытым аўце.

У Менску дэлегацыю Заходняе Беларусі горача вітала Рада БНР, і на наступным ейным паседжаньні ўсе яе сябры былі прынятыя ў сябры Рады БНР.

Спачатку былі нарады дэлегатаў із асобнымі раднымі, часта із сваймі старымі ідэялягічнымі сябрамі. Пасьлей фракцыя Беларускай Сацыялістычнай Грамады БНР склікала сваіх сяброў, на каторай былі і ўсе іншыя беларускія сацыялістыя — сябры Рады БНР і некаторыя несацыялістыя Беларусы — таксама сябры Рады БНР. Зборка была вельмі чысьленая. З удзельнікаў яе захаваліся ў маёй памяці адно тыя, з каторымі й пасьлей даводзілася мне сустракацца. Гэта: Аркадзь Смоліч, Сымон Рак-Міхайлоўскі,Язэп Лёсік, Аляксандра Прушынскі, Заяц, Язэп Варонка, Тамаш Грыб, Палута Бадунова. Хіба былі й Серада, маршалка Рады БНР, Аляксандра Цьвікевіч, Кастусь Езавітаў, Пётра Крэчэўскі і Васіль Захарка, але іх я не памятаю. Была ўся дэлегацыя Заходняе Беларусі. На парадку дня было адно пытаньне — безадвалочнае абвешчаньне



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

незалежнасьці Беларусі. Удзельнікі зборкі складалі абсалютную бальшыню сяброў Рады БНР, зн. ад іх залежыла абвешчаньне незалежнасьці. Зборка цягнулася доўга, пытаньне было ўсебакова разгледжана, мноства выступала з прамовамі, наапошку аднагалосна была прынятая рэзалюцыя — безадвалочна абвесьціць незалежнасьць Беларусі.

Дзеля абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, 24-га сакавіка было паседжаньне Рады БНР. Пачалося адвячоркам. Вёў яго маршалка Рады, вэтэрынарны доктар Серада. Спачатку ініцыятары абвешчаньня незалежнасьці выясьнілі канечную патрэбу незалежнасьці Беларусі з гледзішча нацыянальна-культурнага, палітычнага й гаспадарчага ды падчыркнулі, што беларускі народ, які ў мінуласьці на працягу прынамся дзевяцёх стагодздьяў меў собскае гаспадарства, здольны сам быць незалежным гаспадаром, у сваёй Бацькаўшчыне.

Адылі пачалася дыскусія. У Радзе БНР былі й нацыянльныя мяншыні: Расейцы— запраўдныя, наяжджомыя й абруселыя Беларусы, Палякі —запараўды спалячаныя Беларусы й Жыды. Усе Расейцы былі супраць незалежнасьці Беларусі, часьць Палякаў і часьць Жыдоў таксама былі супраць. З абодвух бакоў, зн. з паміж прыхільнікаў і праціўнікаў незалежнасьці Беларусі, было шмат прамоваў, болей з боку беларускага, як вялікае бальшыні. Настрой рабіўся ўсё гарачэйшым. Калі сьвітала 25-га сакавіка, быў прачытаны праект рэзалюцыі. Каб паганьбіць праціўнікаў незалежнасьці, раздаліся пасуленьні іменнага галасавання над рэзалюцыяй, што й было зроблена. Гэта была гістарычная часіна. Дагэтуль адныя фармальна-праўна, а другія й пачуцьцёва былі грамадзянамі Расеі. Цяпер яны зрывалі з Расеяй, што з гледзішча расейскага права было здрадаю гаспадарства. Тыя, што не адвыкалі ўважаць сябе за грамадзян Расеі, гэтя добра сабе ўсьведамлялі й адчувалі. Ім асабліва гэта была пераломная часіна. Я зацеміў, што др. Серада дрыжэў пры галасаваньні за незалежнасьць свайго краю. Як толькі рэзалюцыя пра незалежнасьць была прынята, засьвяціла ў вокны ўзыходзячае сонца. Колькі асобаў ўскрыкнула: «Узыходзе сонца незалежнае Беларусі!»

Сама нямецкая акупацыя была вялікай перашкодай ў дзейнасьці Рады БНР. Але, апрача гэтага, Немцы не рабілі адумысловых перашкодаў у дзеяльнасьці Рады; але й ані не памагалі. Прычына была ў тым, што пляны Нямеччыны не згаджаліся зь незалежніцкімі імкненьнямі беларускімі. Некаторыя нямецкія палітычныя дзейнікі радзілі прадстаўнікам рады БНР дамовіцца з бальшавікамі што да незалежнасьці Беларусі, што, як ведама, было немагчыма.

(«Бацькаўшчына», Нямеччына, № 11-13 (397-399) 25 сакавіка 1958 года.)



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Беларусізацыя

Леанід Лыч

Рэальная магчымасьць нацыянальнага адраджэньня беларускага народу, якая ўзьнікла пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі, пэўны час зь вялікай цяжкасьцю й значнымі перашкодамі ператваралася ў жыцьцё. Намаганьні паасобных наркаматаў і ведамстваў, адміністрацыйных раёнаў і груп насельніцтва ў справе практычнай рэалізацыі гэтых ідэй насілі лакальны характар. Часта яны прыпыняліся на паўшляху, не зрабіўшы ніякага станоўчага ўплыву на стан нацыянальнага разьвіцьця беларускага народу.

Цяжкі груз мінулага й нацыянальнага прыгнёту адарваў душы многіх беларусаў ад сваіх каранёў, культурных традыцый, істотна прытупіў нацыянальную сьвядомасьць. З прычыны шматвяковай паланізацыі й русіфікацыі прэстыжнасьць беларускай культуры й мовы зьнізілася нават ва ўяўленьнях саміх яе носьбітаў.

Ні ў дзяржаўным і грамадзкім жыцьці, ні ў школах і цэрквах не знайшлося для беларускай мовы пачэснага месца. Пасьля рэвалюцыі шырока распаўсюджваліся чуткі, што ў беларусаў увогуле не было і няма арыгінальнай, самабытнай мовы, што размаўляюць яны на мясцовых дыялектах расейскай альбо польскай моваў. Усё гэта было ня так проста пераадолець у псыхалёгіі асноўнай масы беларусаў.

Характар і зьмест нацыянальнай палітыкі ў пасьлярэвалюцыйнай Беларусі ва многім прадвызначаліся тымі зьменамі, якія адбываліся ў краіне ў цэлым у гэтай сфэры грамадзкіх адносін. Стварыўшы ўласную сувэрэнную дзяржаву, беларускі народ атрымаў рэальную магчымасьць будаваць жыцьцё на нацыянальным грунце зулікам сваіх эканамічных і духоўных традыцый.

Новая пазыцыя ў дзяржаўных кіраўнікоў рэспублікі адразу пачала фарміравацца ў дачыненьні да роднай мовы беларускага народу, бо безь яго поўнага раскабаленьня нельга было ў сур'ёз гаварыць пра яго нацыянальную сувэрэннасьць.

Упершыню пра неабходнасьць арганізацыі дзяржаўнага й грамадзкага жыцьця БССР на роднай мове яе народа было абвешчана ў сьнежні 1920 г. на II Усебеларускім з'ездзе Саветаў, а затым у лютым 1921 г. на II сэсіі Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта (ЦВК) Беларусі. Адзін з пункаў рэзалюцыі з'езда (№4) па



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

дакладу аб народнай асьвеце меў такую фармуліроўку: «Стварэньне сеткі ўстаноў, якія ўсебакова абслугоўваюць культурныя патрэбы масаў на ўсіх мясцовых мовах, падрыхтоўка для іх работнікаў асьветы, выданьне для іх літаратуры на мясцовых мовах ».[1]

Яшчэ далей у гэтым кірунку пайшла II сэсія ЦВК БССР, на якой былі прыняты эфэктыўныя для таго часу практычныя мерапрыемствы па правядзеньню нацыянальнай палітыкі. ЦВК БССР прадпісаў: «Наркомам асьветы зрабіць захады да ўзмацьненьня працы на мове пераважнай большасьці працоўнага сялянства Беларусі — мове беларускай. Нарком асьветы павінен у сваёй працы зыходзіць зь няўхільнай пэрспэктывы плянамэрнага й паступовага пераходу ўстаноў, у якіх навучаюцца й выхоўваюцца дзеці беларусы, на іх матчыну беларускую мову выкладньня. Да выкананьня гэтага даручэньня павінны прыступіць яшчэ ў бягучым годзе».[2]

Была зьвернута пільная ўвага на курсавую падрыхтоўку настаўнікаў, якія маглі-б выкладаць на беларускай мове, прытасаваньне для гэтай мэты Інстытута народнай асьветы й трохгадовых курсаў ў Барысаве й Бабруйску, выданьне літаратуры на мясцовых мовах. «Выданьне-ж падручнікаў, дзіцячага часопіса, навукова-папулярнай і палітычнай літаратуры на беларускай мове павінна быць пастаўлена як ударная задача» [3].

Аднак, першы вопыт нацыянальнага адраджэньня на Беларусі паказаў, што ў яго ёсьць сур'ёзныя ворагі, якія гатовы выкарыстаць любыя сродкі, каб не даць беларускаму народу стаць на ўласныя ногі. Але ад самага пачатку ідэі нацыянальна-культурнага адраджэньня беларусаў імкнуліся надаць мэтанакіраваны характар.

На XII Усебеларускай партканфэрэнцыі ў сакавіку 1923 г. па нацыянальнаму пытаньню прынялі рэзалюцыю: «Камуністычная партыя ў поўнай адпаведнасьці са сваёй праграмай у галіне нацыянальнага пытаньня павінна зрабіць усе захады для налажваньня працы на беларускай мове, ствараючы нармальныя ўмовы для разьвіцьця беларускай культуры», што «кіраўніцтва гэтай працай

1Практическое разрешение национального вопроса в Белорусской Социалистической Советской Республике. Ч1. Белорусизация. По материалам Центральной Национальной Комиссии ЦИК БССР. Мн., 1927. с.126-127.

2 Таксама. с. 128-129.

3 Таксама с. 129.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

павінна быць ускладзена на партыйныя арганізацыі ў цэлым як у цэнтры, так і на месцах» [1] .

Каштоўным палажэньнем разглядаемай рэзалюцыі зьявілася ўказаньне на тое, што працэс пашырэньня ўплыву беларускай культуры павінен узгадняцца: «З наяўнасьцю дастаткова падрыхтаваных, клясава-выхаваных і рэвалюцыйна-вытрыманых работнікаў» [2], бо ў асяродзьдзі кіраўніцкага апарату розных сфэраў дзяржаўнага й грамадзкага жыцьця рэспублікі было нямала людзей, якія на законныя нацыянальныя патрабаваньні беларускага народу глядзелі з пазыцый вялікарасейскага шавінізму.

На Беларусі, мо як нідзе ў іншай рэспубліцы, адчувалася на пачатку 20-х гадоў вострая патрэба ў навуковых, навукова-папулярных публікацыях, у якіх у даступнай форме, пры належнай дакладнасьці, праз глыбокі аналіз гістарычнай практыкі былі-б раскрыты вузлавыя аспэкты нацыянальна-моўнай палітыкі. Такую задачу сьмела паставіў і шмат чаго зрабіў для яе пасьпяховага вырашэньня рэктар Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэта Уладзімір Пічэта, ня будучы сам беларусам па нацыянальнасьці. У жніўні 1923 г. ён выдае невялікую, але вельмі зьмястоўную брашуру пад назвай «Беларуская мова як фактар нацыянальна-культурны», якая дапамагала многім беларусам карэнным чынам зьмяніць свае стаўленьне да гэтага кашотаўнага гістарычнага й духоўнага скарбу. Кожны, хто прачытаў брашуру, больш ня мучыў сябе думкамі, існуе ці не існуе беларуская мова. Вучоны-гісторык пераканаўча даказаў, што ў беларусаў была й ёсьць родная мова, адметная ад блізкароднасных ёй расейскай, украінскай і польскай моваў. Што толькі з прычыны вялікіх несправядлівасьцей гістарычнага лёсу наша мова пачала забывацца. Брашура пабуджала патрыётаў беларускага народу аддаць свае сілы й энергію нацыянальнаму адраджэньню. У.Пічэта вызначыў, што галоўнай апорай павінна стаць інтэлігенцыя, як найбольш адукаваны й нацыянальна сьвядомы пласт беларускага народу.

Практычны вопыт паказваў, што вырашэньне гэтай найважнейшай для лёсу беларускага народу праблемы патрэбуе скаардынаваньне дзейнасьці яго дзяржаўных органаў. Асабліва выразна гэта высьветлілася ў вясну 1924 г., калі вярнулі Беларусі Віцебскую й Магілёўскую губэрні, якія былі перададзены 5 гадоў назад Расейскай Фэдэрацыі. У гэтых губэрнях жыцьцё будавалася ў

---

1 Коммунистическая партия Белорусии в резолюциях и решениях създов и пленумов ЦК. Т.1 Мн., 1973. С.96.

2 Таксама



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

аснове сваём па-расейскаму ўзору. Улічваючы ўсю складанасьць сытуацыі й неабходнасьць наданьня палітыцы нацыянальнага адраджэньня дзяржаўнага характару, II сэсія ЦВК БССР (ліпень 1924 г.) афіцыйна абʼявіла[3] аб пераходзе да беларусізацыі. У шырокім сэнсе пад беларусізацыяй разумелася разьвіцьцё беларускай культуры, вылучэньне беларусаў на партыйную, савецкую, прафэсійную й грамадзкую працу, перавод справаводства дзяржаўнага, партыйнага, прафэсійнага й кааператыўнага апаратаў на беларускую мову.

Цэнтральнае месца ў ажыцьцяўленьні палітыкі беларусізацыі адводзілася праблеме беларускай мовы. І гэта была зусім правільная пазыцыя, бо ў рэспубліцы, дзе на карэннае насельніцтва даводзілася 80% насельніцтва, яго мова выконвала вельмі мізэрны абʼём сацыяльных функцый. Пераважала, як ў дарэвалюцыйны час, расейская мова. Каб пакласьці канец такой несправядлівасьці, было афіцыйна заяўлена, што на тэрыторыі БССР прызнаюцца раўнапраўнымі мова беларуская, яўрэйская, расейская й польская. Але «з прычыны значнай перавагі ў БССР насельніцтва беларускай нацыянальнасьці,— запісана ў пастанове «Аб практычных мерапрыемствах па правядзеньні нацыянальнай палітыкі», беларуская мова выбіраецца, як мова пераважная для зносін паміж дзяржаўнымі, прафэсійнымі й грамадзкімі ўстановамі й арганізацыямі» [1]. Мовай зносін органаў БССР з органамі СССР і саюзных рэспублік прызначалася руская.

Ва ўмовах беларусізацыі надавалася важная роля роднаму слову асноўнай нацыянальнасьці БССР. Узьнікла пільная патрэба плянамэрнага ўводу беларускай мовы ў розныя сфэры грамадзкага й палітычнага жыцьця, у першую чаргу ў дзейнасьць рэспубліканскага дзяржаўнага й партыйнага апаратаў. Не паказаўшы на практыцы, цяжка было разьлічваць, што рэалізацыя беларусізацыі знойдзе належную падтрымку й разуменьне на ўсіх астатніх паверхах кіраваньня грамадзтвам, у працоўных калектывах, навучальных установах, сярод самога народа. І такі прыклад быў паказаны. Гістарычныя для лёсу беларускай нацыі рашэньні другой сэсіі ЦВК БССР прадвызначылі ход падзей.

Вялікая заслуга тым дзяржаўным дзеячам, якія стаялі ля вытокаў, бралі ўдзел у распрацоўцы мерапрыемстваў па беларусізацыі. Трэба прызнаць іх настойлівыя намаганьні надаць беларусізацыі канкрэтны характар па часе й прасторы. Такая канкрэтнасьць вельмі добра прасочваецца і па тэрмінах беларусізацыі дзяржаўных органаў улады й кіраваньня. Згодна з рэзалюцыямі

---

[1] Собрание узаконений и распоряжений БССР. Мн., 1924. № 11. с. 108, с. 1.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

другой сэсіі ЦВК БССР беларусізацыю апаратаў самога ЦВК, Саўнаркама, Наркамасьветы й Наркамаземляробства плянавалася завяршыць за адзін год, Наркаматаў унутраных спраў, юстыцыі, сацыяльнага забясьпячэньня, пошты й тэлеграфа — за два, усіх астатніх — за тры.

Пасьля таго, як беларусізацыя была абʼяўлена дзяржаўнай палітыкай, шэраг важных прадпрыемстваў у гэтым напрамку ажыцьцявілі рэспубліканскія й акруговыя партыйныя, прафсаюзныя й камсамольскія органы, адміністрацыйна-гаспадарчы апарат наркаматаў і ведамстваў, прадпрыемстваў і арганізацый.

У той час быў вельмі шырока вядомы дэвіз партыі: «Уся КП(б)Б павінна гаварыць на беларускай мове». У якасьці яшчэ аднаго прыкладу сьвядомага рэгуляваньня з боку партыі моўнай палітыкі можна спаслацца й на рэзалюцыю кастрычніцкага (1926 г.) пленума ЦК КП(б)Б. Пунктам 8 прынятых на ім рэзалюцыяй Бюро ЦК абавязвалася «даць цьвёрдую дырэктыву кіраўнікам установаў аб уводзе плянавасьці й сыстэмы ў працы па пераводзе апаратаў і ўстаноў на беларускую мову. Нацыянальная камісія ЦВКа, а таксама ЦКК і РСІ павінны ажыцьцяўляць строгі й сталы нагляд за дакладным выкананьнем гэтай дэрэктывы»[1]. У 18-м пункце прызнавалася неабходным «усю працу партыйнага й камсамольскага апаратаў перавесьці да 1-га студзеня 1927 г. на беларускую мову»[2]. І гэта нікому тады не здавалася дыктатам зьверху, бо справа датычылася не асабістага, а грамадзкага жыцьця. Усе разумелі, што выбар мовы для абслугоўваньня грамадзкага жыцьця павінен знаходзіцца ў кампэтэнцыі адпаведных дзяржаўных і грамадзкіх органаў. Тыя, карыстаючыся дадзенымі навуковых дасьледваньняў, даводзілі да ведама свайго народу праграму моўнага разьвіцьця не толькі на бліжэйшую, але і на самую далёкую пэрспэктыву, і з апорай на масы няўхільна праводзілі яе на практыцы.

Абвясьціўшы беларусізацыю афіцыйнай палітыкай, дзяржава й партыя своечасова паклапаціліся аб распрацоўцы эфэктыўнай сыстэмы кіраваньня ёю, прыцягнулі да гэтай справы шырокае кола актывістаў. Практычна ўся праца па беларусізацыі была сканцэнтравана ў руках камісіі па ажыцьцяўленьню нацыянальнай палітыкі ЦВК БССР, на чале якой стаяў вядомы ў рэспубліцы дзяржаўны дзеяч А. Хацкевіч . (Камісія створана ў 1924 г.)

Аналягічныя камісіі былі створаны пры акруговых выканаўчых камітэтах.

1 Рэзалюцыя пленума ЦК КП(б) Б (октябрь 1926 г.). Мн., 1926

2 Таксама. С.13.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Сталымі штатнымі працаўнікамі як цэнтральнай (рэспубліканскай), так і акруговых камісій па ажыцьцяўленьню нацыянальнай палітыкі былі толькі іх адказны сакратар. Выкананьне бягучай працы камісій ускладалася на апараты адпаведных выканаўчых камітэтах.

З стварэньнем пры ЦВК БССР і выканаўчых камітэтах акругоў камісій па ажыцьцяўленьню нацыянальнай палітыкі ўдалося поўным ходам разгарнуць працу па ўсіх напрамках беларусізацыі, а не толькі на ніве народнай адукацыі, як гэта ў асноўным рабілася на пачатку 20-х гадоў. Найважнейшым кірункам беларусізацыі й найбольш складаным кампанентам яе зьяўлялася ўкараненьне беларускай мовы ў службовае справаводства. Сусьветны вопыт, у т.л. і практыка беларускага народу, сьведчылі, што без дасягненьня любой мовай такога статусу ў яе вельмі мала надзеі на выжываньне. У дзень пераходу да беларусізацыі дзяржаўнага апарата, веданьне беларускай мовы іх работнікаў знаходзілася на нізкім узроўні, бо ніхто зь іх не займаўся яе вывучэньнем, набываючы прафэсію ў навучальных установах. Не гатовымі былі да беларусізацыі службовае справаводзтва й многія з тых, хто валодаў толькі навыкамі вуснай беларускай мовы. Адзіным рэальным выйсьцем з гэтага становішча было прызнана паўсюднае вывучэньне беларускай мовы на спэцыяльна ўтвораных курсах для работнікаў такіх апаратаў. Вынікі аказаліся даволі суцяшальнымі. Сярод кіруючых кадраў, служачых канцылярый нязьменна павялічваўся лік асоб, якія былі ў стане весьці сваю работу на беларускай мове. Так, калі ў 1925 г. у цэнтральных (рэспубліканскіх) установах толькі 22% агульнай колькасьці супрацоўнікаў валодала беларускай мовай, а ў акруговых і раённых — 36% дык ужо ў 1926 г. у цэнтральных— 54%, у акруговых і раённых — 42% , ў 1927 г. адпаведна — 81 % і 71 %.

Апошнія дзьве лічбы даюць падставы сьцвярджаць, што вызначаныя ў 1924 г. другой сэсіяй ЦВК БССР тэрміны беларусізацыі дзяржаўнага апарату, наркаматаў і ведамстваў аказаліся зусім рэальнымі, у асноўным вытрымліваліся. Аналізуючы гэтыя лічбы, бачым, калі ў справе беларусізацыі апарату цэнтральныя (рэспубліканскія) установы адставалі ад акруговых і раённых, дык ужо праз два гады яны выйшлі наперад, што можа разглядаць як доказ сур'ёзнага падыходу вышэйшых органаў улады й кіраўніцтва рэспублікі да вырашэньня гэтай лёсаноснай для беларускай нацыі праблемы.

( Працяг у наступным нумары)

---

1 Практическое разрешение национального вопроса в Белорусской Социалистической Советской Республике. Мн., 1927. Ч.1. с.12.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Эрнэст Ялугін

Публіцыстычная аповесьць-хроніка ў дыялёгах

# Сьвечкі на Дзяды



Дзеючыя асобы

**Зьміцер Жылуновіч,** кіраўнік Беларускага нацыянальнага камітэта, а ў бліжэйшым будучым—Старшыня першага Беларускага ўрада.

**Чарвякоў, Дыла, Лагун, Шантыр,** яго паплечнікі— прадстаўнікі Беларускага нацыянальнага камітэту.

Дзеючыя асобы

**Мясьнікоў, Кнорын, Іваноў, Разэнталь, Рэйнгольд,** кіраўнікі Заходняй вобласьці й Смаленскай абласной партыйнай арганізацыі бальшавікоў.

**Сталін,** народны камісар па справах нацыянальнасьцей

**Сямён,** з рабочых, дэлегат УІ Смаленскай абласной партыйнай канфэрэнцыі.

**Кірэй,** зь сялян-беднякоў, у нядаўнім салдат.

**Мікола,** таксама селянін і салдат, які на вайне згубіў нагу.

**Яфім,** кухар і гаспадар перасоўнай харчэўні «Яф.Нобель».

**Радавец,** нядаўні дзеяч Беларускай Народнай рэспублікі, актывіст.

**Казімір,** інжынер, які таксама спачувае БНР.

**Алеся,** яго жонка, настаўніца малодшых клясаў. 22 гады, ня болей.

**Жакоўскі,** менскі акцёр, 20 гадоў.

**Першы салдат,** з Румыскага фронта.

**Другі салдат,** з Прыбалтыйскага фронта.

**Быкоўскі,** напалоханы шляхцюк.

**Бывалы,** доктар яшчэ тых навук. Яму гадоў пад 70, але ён яшчэ энергічны.

**Нябіты.** Малады чалавек у тужурцы чыгуначніка, магчыма зь «нефармалаў».

А таксама: **Дзяжурны** па станцыі, **Чырвонаармеец** зь вінтоўкай, прадаўцы газэт, пасажыры і людзі з натоўпу.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Напісаная на падставе архіўных дакумэнтаў публіцыстычная аповесьць-хроніка Эрнэста Ялугіна прысьвечана пытаньню стварэньня БССР. Дзякуючы ўжытаму аўтарам літаратурнаму прыёму падвоенага дзеяньня, чытач мае магчымасьць адначасова даведацца пра гістарычныя падзеі і сваіх сучаснікаў. Аповесьць напісана пад уражаньнем падзей 30 кастрычніка 1988 г., калі бальшавіцкія ўлады Менску з дапамогаю войска жорстка расправіліся з тысячамі ўдзельнікаў памінальнага шэсьця на Дзяды, а падпарадкаваныя кампартыі сродкі масавай інфармацыі пачалі цкаваньне й ачарненьне беларускага дэмакратычнага руху.

Гэта драма жыцьця. Ніхто не чакаў, што ўсяго праз дзесятак гадоў яна зьменіцца трагэдыяй— апакаліпсісам сталіншчыны. Падзеі адбываюцца ў нашыя дні, а таксама ў канцы 1918-га й на пачатку 1919-га года. У Менску, Смаленску і ў душы кожнага жыхара Беларусі .

* * *

Шум блізкай чыгуначнай станцыі. Сьвісткі цягніка... Ляскат буфэраў. Неспакойна гамоніць натоўп. Зьяўляецца Нябіты. За ім уваходзіць Бывалы. У руцэ ён трымае экзэмпляр часопіса «Политический собеседник» й некалькі газэт «Вячэрні Мінск». Прыглядаецца да Нябітага.

Б ы в а л ы: Тваё прозьвішча—Нябіты? Маё — Бывалы. Я па даручэньню актыва. Пагутарыць прыйшоў.

Н я б і т ы: А-а, Бывалы, доктар яшчэ тых навук.

Б ы в а л ы: Эх, моладзь, моладзь... Не лупцавалі вас, як маё пакаленьне. Наогул вам скажу, пара мітынговай дэмагогіі скончылася. Я вам дзеля вашай карысьці раю: уперад глядзіце, у далячынь. Яшчэ невядома, якіх вы памылак наробіце, калі гэтак будзеце...Вось лезеш ты, вочы зажмурыўшы, на слуп, а навошта? Каб рэпутацыю сабе сапсаваць? Чаго вам яшчэ не хапае? Заходнюю Эўропу вам адчынілі? Рок-музыку далі? Ды балдзейце вы пад яе хоць да пасіненьня! Во джынсы бач на табе якія? Ва-аронкі...Раней толькі пастухі такія нагавіцы надзявалі. Дык чаго яшчэ вам трэба?

Н я б і т ы: Мы вось хочам неяк праўду дазнацца.

Б ы в а л ы: Пра-ўду? Калі ласка, вось я прыйшоў спэцыяльна. Давай, пагаворым.

Н я б і т ы: Ладна. Тады скажы: па-першае: як вашаму любімаму правадыру ўдалося захапіць гэтакую ўладу? Сам справіўся ці ваша пакаленьне яму ўручыла? «Вядзі нас, любімы, табой мы зьяднаны, ты — наша жыцьцё, дарагі правадыр!» Па-другое, так хацелася-б запытаць у нашых беларускіх,



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

пралетарскіх, як ваша пакаленьне казала, лідэраў... У Жылуновіча, у Чарвякова...Чаму не дамагліся сапраўднай сувэрэннасьці Беларусі? Каб яна існавала, ці-ж Сталін змог-бы імі распараджацца нібы ўласнымі халопамі? Не зразумелі яны нечага? Проста спалохаліся? Іх- бы я хацеў паслухаць.

Б ы в а л ы: А вось гэтага ўжо не атрымаецца. Усё, цягнік той даўно адышоў.

У гэты час да іх набліжаецца нейкая дзіўная фігура у зношаным да рызьзя адзеньні салдата царскай арміі, чалавек на мыліцах. На ім накідка — стары капюшон зь мешкавіны, які некалі сяляне скарыстоўвалі ў якасьці дажджавіка. Следам за аднаногім уваходзіць чалавек у старых ботах і шэрай падранай ватроўцы-бушлаце, паверх якой таксама накінуты шэры мяшок-капюшон. Ён пытае аднаногага:

—Ці гэта ты, Мікола?

М і к о л а: Сямён? Даўно цябе не чутно. Казалі, вялікім начальнікам зрабіўся. Ты дзе зараз?

С я м ё н: Сёмы кіламэтр ад Магадана... Барак там быў, дом інвалідаў.. Дык я недалёка. Разам з адным вучоным беларусам, Міхасём Марозам. Інтэлектуальная кампанія, нічога не скажу благога. Але ўсе косьці прамерзлі!... А ты дзе?

М і к о л а: Ну, мая дача тутака, пад Менскам...У Курапатах. Яма нумар трыццаць чатыры. Нас тамака чалавек сто, мабыць. Нічога, суха. Пясочак. Мы такоўскія магілёўскія. І ведаеш, хто мяне туды дэлегаваў? Во ён, Кірэй! (паказвае на чалавека з афіцэрскім рамнём).

С я м ё н: За што ты яго, Кірэй?

К і р э й: Ці-ха! Загад атрымаў: у расход... Як злоснага падкулачніка. Я яго і шлёпнуў. Аказаў узброенае супраціўленьне законнай уладзе, с-сволач.

С я м ё н: Супраціўленьне? Ты-ж за Саветы быў, Мікола! Як-жа тое здарылася?

М і к о л а: Ды прыйшоў упаўнаважаны. Здавай, кажа, зерне ў плян. Дык, кажу, здаў, разьлічыўся, квіток маю. А ён: яшчэ давай, кулак, маць тваю, загадана плян перавыканаць. І палез у сусекі. Кажу: не чапай, бо мне-ж сеяць трэба. Грабе й грабе. Ну я яго кастылём і ўгрэў... Мне-б з маім калецтвам, адразу як у вёску прыцягнуўся, ў камітэт беднаты, каб у суседзяў сусекі выграбаць. А я за зямлю ўхапіўся. Ды як-жа: ты-ж крычаў: зямля — сялянам! Памятаю, прыязджае ў сельсавет сам таварыш Чарвякоў: здабывай, заклікае нас, селянін, больш багацьця! Чым больш станеш багаты, тым больш багатай будзе рабоча-сялянская дзяржава. Я і пачаў... У мяне-ж было дванаццаць



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

дзяцей. Сыноў-восем, братва. Падлеткі, але такія цягавітыя... І ты скажы: усіх Кірэй загроб. Хоць-бы аднаго на развод пакінуў.

С я м ё н: Эх! А потым яго і самога — бы сабаку...І дзе ён дачу атрымаў?

М і к о л а: Ад маёй недалёка. Яма нумар 490. Яго-ж пазней. Ці не ў 1939-м?

К і р э й: Выходзіць, я — сабака, а нехта чысьценькі? Ахвяра? (Да Сямёна) А ці не ты мяне падбухторваў? Жалезнай рукой, казаў, зьнішчым буржуазную заразу! Дашчэнту! Рэвалюцыя, казаў, не павінна ні шкадаваць, ні хаваць сваіх мерцьвякоў! ( Да Бывалага) Ці так я кажу, грамадзянін прафэсар?

Б ы в а л ы : Ну, ведаеце, гэты нумар са мной не пройдзе. Гэта ўжо недазволены мітынг і экстрэмізм...( Зьнімае трубку тэлефона і круціць ручку). Ало! Лаўрэнцій Паўлавіч...Фу ты...Не тое. Ало! Павел Савельевіч!*

Да Бывалага падыходзіць Рэйнгольд, забірае ў яго трубку і вешае на кручок

Р э й н г о л ь д: Я—Ісаак Рэйнгольд, старшыня Менскага ваеннага рэвалюцыйнага камітэта... (да Сямёна і Кірэя). Навядзіце рэвалюцыйны парадак. Жалезнай рукой. Згодна загадам нумар чатыры менскага ваенсавета.

Тыя ськідваюць свае хламіды-саваны і бяруць Бывалага за рукі.

Б ы в а л ы: Гэта на мяне? Што-ж, давайце дыскутаваць у такой форме. Я... буржуй... Да у мяне бацька да рэвалюцыі пастухом быў.

С я м ё н: Ты савбур...Савецкі буржуй. Леніна дакладней ведаць трэба, грамадзянін. А яшчэ прафэсар. Ну, хутчэй, са сцэны, калі загадана...

Б ы в а л ы: І гэта ў вас называецца дэмакратыяй?

С я м ё н: Дэмакратыя, грамадзянін, слова з буржуазнага лексікона. У нас дыктатура самага перадавога кляса.

Б ы в а л ы: Што-ж, паглядзім, чым вы гэта скончыце. Ну, што у нас зараз?

Н я б і т ы: Прывакзальная плошча Менску. Восень тысяча дзевятсот васемнаццатага года. Немцы пакідаюць Беларусь.

Дзяжурны б'е ў звон два разы. Ля выхада на пэрон замітусіліся людзі. Зьяўляецца гаспадар-кухар Яфім.

Я ф і м: Звар'яцелі людзі. Бягуць, бягуць...Бы канец сьвету.

Зноў праявіўся клясавы інстынкт Бывалага —даносчыка і стукача ў карныя органы. Лаўрэнціем Паўлавічам клікалі Берыю —шэфа тайнай паліцыі пры Сталіне.. Паўлам Савельевічам аўтар хутчэй за ўсё называе тагачаснага шэфа аддзела прапаганды ЦК КПБ Савелія Яфімавіча Паўлава, які спрыяў цкваньню ў прэсе дэмакратаў рэспублікі.— Рэд.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Д з я ж у р н ы: А як, вы думалі, пан Яфім? Апошнія цягнікі ідуць на Захад, якія абараняе германская армія. Потым пачнецца хаас.

М а н а р х і с т: Не сёньня-заўтра прыйдуць чырвоныя на чале з гэтым д'яблам у скураных штанах, Троцкім.

Экс-ч ы н о ў н і к: Маскалі? А я чуў, стане кіраваць Беларуская рада...

Д з я ж у р н ы: Гэта блеф мясцовай інтэлігенцыі. А дзе сіла зброі?

К і р э й: Для простага люду ў іх слабая праграма. Трэба простыя, зразумелыя кожнаму працоўнаму чалавеку заклікі: зямля — сялянам, раз. Фабрыкі — рабочым, два. Мір, тры.

К а з і м і р (запыхана): Пан дзяжурны, рыжскі цягнік калі будзе?

Д з я ж у р н ы: Рыжскі скоры затрымліваецца! Ня прыбыў яшчэ з Воршы.

Экс-ч ы н о ў н і к: А я кажу, цягнік затрымалі ў Смаленску. Па загаду Мясьнікова.

Б ы х о ў с к і: Што шчэ так- бы мувіць, за птах?

Я ф і м: Вы, шаноўны пан Быхоўскі, ня чулі пра Мясьнікова? Той, што ў Бабруйску ў 1917 усё перакуліў дагары нагамі. Бальшавік. А сюды як зьявіўся, усе гарадавыя паўцякалі.

Экс-Ч ы н о ў н і к: Зараз ён у Смаленску, зьбег ад германцаў і ўзначальвае там абласны камітэт бальшавікоў.

М а н а р х і с т: Кіраваць ён мерыцца ўсім Паўночна—Заходнім краем.

Р а д а в е ц: Беларусьсю, хочаце сказаць?

Экс-Ч ы н о ў н і к: Але, Паўночна-Заходні край Мясьнікоў з Кнорынам і Калмановічам абвясьцілі зараз Заходняй камуніяй...Вось Мясьнікоў і загадаў затрымаць цягнік. Каб не пусьціць у Менск выдаўца газэты «Дзяньніца». Ну, Зьміцера Жылуновіча разам зь яго нацыянальным камісарыятам для беларусаў.

Р а д а в е ц: Правільна зрабіў. Жылуновіч - ваш маскоўскі бальшавіцкі агент. Толькі Мясьнікоў яго не раскусіў. Відаць, Дзяржынскі не растлумачыў. З 17-га года гэты пралетарскі паэт прадае Беларусь Расейскай Савдэпіі.

М а н а р х і с т: А хіба тут — не Расія?

Р а д а в е ц: Ад імя Вялікай рады я...

М а н а р х і с т: Якая там рада?! Вунь яна, бяжыць да поезда з панамі германскімі афіцэрамі навыперадкі. Вы зараз сябе пакажыце, калі трэба паставіць заслону чырвонай заразе... Але мы сюды яшчэ вернемся, гаспада! Бальшавікі доўга не утрымаюцца. Давядуць камуніямі гаспадарку да разору — і народ успомніць пра нас, адновіць сьвятую Расію, адзіную й непадзельную...(да Радаўца). Нам-бы аб'яднаць свае сілы , я не грызьціся.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Р а д а в е ц: З вамі? Хопіць. Мы зьвернемся лепш за дапамогай да Брытанскага каралеўства. Дэмакратычная Амэрыка нам працягае руку дапамогі...

С я м ё н (малады рабочы з павязкай на рукаве): Мужыкі! Працоўнае сялянства Беларусі! Вы змагаліся зь германцамі. Не давайце цяпер ніякай падтрымкі так званай радзе БНР, якая хоча да вас прымазацца, каб вашымі рукамі адасобіць Беларусь для нацыяналістаў-паноў. На храна гэта вам?! Вам трэба свае Саветы!

Р а д а в е ц: Паслухайце, дык мы-ж таксама былі за Саветы! Памятаеце, як у кастрычніку 1917-га мы прыйшлі да вас у камітэт? Мы прапанавалі нацыянальнае супрацоўніцтва ўсіх сумленных людзей Беларусі, каб разам змагацца з голадам і гаспадарчай разрухай. Ландар і Мясьнікоў нас выгналі!

С я м ё н: Правільна зрабілі. Ня трэба вазіцца з дробнабуржуазнай нацыяналістычнай швальлю. Лепей чытайце бальшавіцкія лістоўкі. У Смаленску склады ломяцца ад рознага дабра, якое неабходна сельскаму працаўніку. Там мануфактура, плугі, цьвікі, боты... Вось што вы можаце атрымаць ад сваёй роднай савецкай улады ў замен за ваш хлеб і сала.

С е л я н і н: Скажы, пане—таварышок, факцічаскі, а мыла будзе?

К і р э й: От дзярэўня! Тут размова ідзе аб перамозе пралетарыяту ў сусьветным маштабе, я ён — мыла!

С я м ё н: Нічога. Селянін у сваёй сьвядомасьці яшчэ адстае ад пралетарскіх мас, але галоўнае—ён з намі, а не з. контррэвалюцыяй. А мыла ? Гэтага мыла маем навалам.

Р а д а в е ц: Мужыкі, і вы гэтаму верыце? Верыце, што прыйдзе з горада камісар і адорыць вас зямлёй, а не закамандуе ў камунію?

С я м ё н: Чытаць умееш, контра? Во, у лістоўцы напісана.

Да пэрона падыходзіць Жылуновіч. Ён некага шукае ў натоўпе.

Р э й н г о л ь д: А... Жылуновіч... З Масквы? Што там заварылі гэтакае са сваім Белнацкомам? Праз газэту спрачаецеся са смалянамі. Цяпер са Сталіным.

Ж ы л у н о в і ч: Сталін... Камісар па нацыянальных справах называецца. Ніводнага-ж праекта не мае, як быць зь Беларусьсю!

Р э й н г о л ь д: Ці гэта зараз важна? Галоўнае: каму ўрэшце будзе належаць улада — пасобнікам буржуазіі ці пралетарыяту.

Ж ы л у н о в і ч: Слухайце, Мясьнікоў з Кнорыным — гэта ўлада пралетарыята? Ці быў у іх хоць адзін працоўны мазоль на далоні! А вось маю руку — вазьміце....



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Б ы в а л ы: Час трэба ўлічваць, настрой мас, а не шыць справу Мясьнікову й Кнорыну. Яны верныя бальшавікі- інтэрнацыяналісты, ленінцы.

Н я б і т ы: Даруйце, але Мясьнікоў заўсёды быў прыхільнікам Троцкага. У 23-м годзе спэцыяльна прыехаў у Менск змагацца за ягоную плятформу. Ну, а Кнорын...

Б ы в а л ы: Эпоха ўжо не тая... А Жылуновіч? У 1905 прымыкае да сацыял-дэмакратаў. У пачатку 17-га года падзяляе плятформу «міжраёнцаў» і ратуе за прымыканьне бальшавікоў з меньшавікамі, а сам тым часам ня проста ўдзельнічае ў рабоце дробнабуржуазнай партыі Беларускай сацыялістычнай грамады, а нават становіцца лідэрам яе Петраградзкай філіі. Нарэшце, уступае ў бальшавіцкую партыю... Але самога точыць і точыць гэты нацыяналістычны чарвячок. Чаму, скажыце, ён усё да радаўцаў прыглядаецца?

Р а д а в е ц: Ого, колькі нам ён крыві папсаваў сваёй «Дзяньніцай»!

Б ы в а л ы: Крытыкаваў, было. А сам у сьнежні 17-га прыняў актыўны ўдзел на Усебеларускім з'ездзе. Мала таго: начальнік Менскага гарнізона разагнаў гэтае контррэвалюцыйнае зборышча — Жылуновіч разам зь лідэрамі грамадаўцаў і беларускімі эсерамі давай пратэставаць. Прычым дзе? На Трэцім Усерасійскім з'ездзе Саветаў асьмеліўся!

Ж ы л у н о в і ч: А ведаеце, хто там ад імя працоўных беларусаў выступаў? Алібегаў, які па-беларуску ні слова не разумеў. Павінен-жа быў нехта растлумачыць з'езду, што адбылася цяжкая несправядлівасьць: з дапамогай зброі разганяюць тых, каму самі-ж дазволілі зьбірацца, каб паспрабаваць выпрацаваць агульную плятформу, як ратаваць Беларусь!

Б ы в а л ы: Сам таго не ўсьведамлюючы, Жылуновіч аказаўся ў кампаніі дзеячаў, якія імкнуліся спыніць рух нашай рэвалюцыі, каб не давесьці яе да поўнай перамогі.

Н я б і т ы: А што значыць — поўная перамога? Калі вераць Алібегаву, а на Жылуновіча тупаюць нагамі, перапыняюць: «Далой нацыяналіста»? Што-ж, ён ўсё роўна застаўся на тым з'ездзе і падпарадкаваўся яго рашэньням...

Р а д а в е ц: Вось і стаў па сутнасьці тым прыручаным баранам, які дапамагае пастухам арганізавана весьці вольны статак у загон.

С я м ё н: Контррэвалюцыйная дэмагогія дробнабуржуазнай агентуры. Далой! Кірэй, чаго чакаеш!

С а л д а т ы: Не чапай, няхай гаворыць!...

Галасы людзей заглушае сьвісток цягніка. Чуецца шум колаў, лязг буфэраў.

(Працяг у наступным нумары)



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Пачатак

Міхась Белямук

Базыль Семянчук меў дзядзьку Барыса ў Кліўлендзе, але на свае лісты да яго адказаў ня меў. Аднойчы атрымаў я ліст ад Базыля з просьбай расшукаць дзядзьку. Паказаў я ліст Амельяну й той парадзіў мне праверыць кнігу з тэлефонамі. Але прозвішча Семянчук і падобнага на яго ў ёй не было. Тады мы паехалі ў публічную бібліятэку. Яе супрацоўнікі далі нам апошні «цэнзус» (перапіс насельніцтва). Там мы і адшукалі імя Барыса Семянчука. Калі мы сказалі бібліятэкару, што ў 1940 г. Барыс быў жывым, нам выдалі картатэку з нэкралёгамі, але ў ёй нічога не знайшлі. Гэта азначала, што Барыс не памёр, але ці жыў ён і далей у той кватэры, дзе пражываў да 1940 г.? Паехалі туды. Недалёка ад вуліцаў Бродвэй і Пэршынг адшукалі завулак і домік, пагрукалі, але дзьверы нам ніхто не адчыніў. Вокны былі завешаны закуродымленымі фіранкамі, бо недалёка стаяла сталёўня Рэпаблік, якая 24 гадзіны дыміла. Сьцены таксама былі ў куродыму. Суседзі заўважылі нас і пацікавіліся, чаго нам трэба. Мы сказалі, што шукаем Барыса. Тады яны паведамілі, што Барыс жыве адзін і часта езьдзіць да сябра, які таксама адзінокі й хворы. Мы пакінулі запіску, а суседзяў папрасілі сказаць, што Барыса шукае пляменьнік Базыль.

На другі дзень Семянчук пазваніў, але я хацеў асабіста сустрэцца зь ім. Таму я папытаўся, ці будзе ён у хаце, і паехаў да яго. Па дарозе вельмі хваляваўся, мне хацелася дапамагчы Базылю, у якога было два сыны й дачка, скаўты Шостага сьцягу Згуртаваньня Беларускіх Скаўтаў на чужыне. Непакоіла думка, а ці згадзіцца Барыс забраць іх у Амэрыку? Але калі я паказаў фатаграфіі, ён заплакаў, прыціснуў іх да грудзей і паўтараў: «Божа, памажы мне забраць іх, каб больш ня быў я адзінокім». Пачакаўшы, калі ён суцешыцца, я запрапанаваў яму зьвярнуца да Баранавай у справе запросінаў пляменьніка. Той ахвотна згадзіўся, прыабяцаў на наступны дзень прыехаць.

Да хаты я вярнуўся задаволеным: пошукі Барыса не былі дарэмныя. Але Амельян, праслухаўшы маю размову з Барысам, параіў не чакаць на прыезд Барыса, а раненька паехаць да яго самому. « Яго сябры й суседзі могуць адмоўна ўзьдзеяць, асабліва, калі ён мае грошы, на якія ўсе ёсьць ласы». Я зрабіў, як параіў Амельян. Калі я прыехаў, то застаў у хаце суседзяў. Потым



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Барыс прагаварыўся, што яны не радзілі яму высылаць запросіны пляменьніку.

Спатканьне з Баранавай не было прыемным і няведама, чым-бы скончылася, каб не Васіль Баранаў. Калі тая пачала пытаццца Барыса, калі ён быў на споведзі, як часта ходзіць у царкву, каго ведае з прыхажанаў, зь кім сябруе, Баранаў не сьцярпеў: «Чалавек прыйшоў запоўніць запросіны й не пытай пра ягоныя асабістыя справы». Баранава разгубілася, пачырванела і больш нічога не выпытвала, а пачала запаўняць фармуляры запросінаў.

Калі Барыс усё падпісаў, мы пайшлі на аўтобус і па дарозе сустрэлі чалавека, які прыпыніўся й запытаў, хто мы. Я адказаў, што беларус. Той падаў руку й сказаў: «Я таксама беларус, маё прозвішча Сачкоўскі. Я жыву каля царквы сьв. Тэадосія, на вул. сьв. Ціхана. Прашу на шклянку гарбаты». Бацькі Данілы Сачкоўскага трапілі ў Крым да рэвалюцыі, пасьля вайны прыехалі ў Польшчу. Даніла адчыніў майстэрню ў Варшаве, дзе папраўляў музычныя інструмэнты. Але родную Піншчыну не забываў. У Пінску сям'я купіла хату, каб улетку адпачыць, падыхаць сьвежым паветрам, пацешыцца палескімі краявідамі. Пачуўшы гэта, Барыс нецярпліва запытаў Данілу, ці быў ён у Століне? Даніла адказаў, што быў, лавіў рыбу й купаўся ў рэчцы Гарыні. Барыс усхваляваўся. «Калі па Гарыні плылі ў Столін, то можа памятаеце вёску Вугалец, яна ад Давід-Гарадка ў 7 мілях, а ад Століна ў 15? Я з Вугальца, раскажыце, што ведаеце, чулі пра мой родны край. Я пакінуў яго 40 гадоў назад і прыйдзецца паміраць мне тут на чужыне. Але я шчасьлівы, што пляменьнік адшукаўся, і будзе каму мяне пахаваць. »

Сачкоўскія мелі дачку Валянтыну й сына Аўгена, зь ім я і пасябраваў. Ён пазнаёміў мяне з братамі Кузьміцкімі. Іх сям'я, бацькі Нікіфар і Дарыя, сыны Ян і Мікалай, прыехалі ў Кліўленд, дзякуючы дапамозе Сачкоўскіх, 17. 08. 1949 г. Мужчыны працавалі ў кампаніі Мураль, якая разьбірала дамы, зараблялі 90 цэнтаў на гадзіну. (Такая зарплата ў1949-1950гг. лічылася дастатковай).

У Таронта (Канадзе) пачалі выдаваць у сакавіку 1948 г. на рэтатары газэту «Беларускі эмігрант», а з 1-га кастрычніка 1949г. — друкам. На пачатку кастрычніка 1949 г. атрымаў ліст ад Амельяна Апацкага з просьбай прысылаць яму «Беларускі эмігрант». Я выслаў яму газэту й напісаў ліст. Апацкія мелі дачку Марыю, што была замужам за Іванам Лягушам, і сына Сяргея. Жылі яны ў Мэнтары, 60 міль ад Кліўленда. Апрача Апацкіх і Лягушаў у Мэнтары знаходзіліся Пётра й Марыя Шчэрбакі, Іван і Жэня Ерыкі — усе яны працавалі ў парніках.

У пачатку лістапада Апацкія, Лягушы, Шчэрбакі, Ерыкі прыехалі ў



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Кліўленд у царкву сьв. Тэадосія. Пасьля богаслужэньня пайшлі яны й Сачкоўскія, Кузьміцкія, Галя й Янка Лічкі, Дудзічы, Буневіч, Барыс і я у Лінкольн парк. Гэта быў першы беларускі пікнік.

26 студзеня 1950 г. атрымаў ліст ад Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, сп. Міколы Абрамчыка, з паведамленьнем што ён выязджае ў Чыкага, каб спаткацца з Язэпам Варонкам, Янкам Чарапуком-Змагаром, Міколам Дзямідавым. «На павароце — пісаў М.Абрамчык— затрымаюся на суткі ў Кліўлендзе. Было-б добра, каб напісалі на адрас М.Дзямідава ў гэтай справе».

У пачатку сьнежня 1949 г. прыехалі а. Аляксандр Лічко, матушка Леаніла й сын Мікола. Хаця ў хаце Дудзічаў было цесна, але Лічкі не шукалі іншага памяшканьня. Для а. Аляксандра знайшлі працу ў друкарні, для матушкі — пры дэзынфэкцыі шпітальных прыбораў, а Мікола пайшоў у сярэднюю школу. Калі я атрымаў ад М.Абрамчыка ліст, то паехаў да а.Аляскандра й ён парадзіў дамовіцца з Сачкоўскім й Кузьміцкім, каб ў нядзелю 29-га сабрацца й абгаварыць справу адносна прыезду старшыні Рады БНР, якога мы называлі Прэзыдэнтам. Сабраліся мы на кватэры Кузьміцкіх, яны жылі побач царквы сьв.Тэадосія. Усе выказваліся, каб напісаў Прэзыдэнту і папрасіў яго затрымацца ў Кліўлендзе даўжэй, а 12 лютага прачытаў даклад. Прэзыдэнт у лісьце ад 2-га лютага 1950 г. паведаміў, што просьбу нашую ўзяў пад увагу й затрымаецца ў Кліўлендзе.

Часу было мала, але мы з энтузіязмам ўзяліся за працу. У Украінскім Народным Доме нанялі залю на 400 асоб, у украінскай друкарні замовілі лістоўкі з паведамленьнем аб прыездзе й дакладзе Прэзыдэнта Беларускай Народнай Рэспублікі. Матушка Леаніла й Галя пашылі маленькія бел-чырвона-белыя сьцяжкі. У нядзелі 5 і 12 лютага мы раздавалі лістоўкі. Я й Сачкоўскі з сынам — каля царквы сьв. Тэадосія. Галіна й Янка Лічкі — каля ўкраінскае праваслаўнае царквы сьв. Уладзіміра. Ян і Мікола Кузьміцкія — каля ўкраінскае вуніяцкае царквы сьв. апосталаў Пятра й Паўла.

Першую нядзелю, раздаючы лістоўкі каля царквы сьв.Тэадосія, сустрэліся зь неспадзяванкай: нам іх забаранілі распаўсюджваць на царкоўным пляцы. Аднак мы змаглі раздаць даволі вялікую колькасьць лістовак. У наступную нядзелю нас акружылі людзі, якія пыталіся, адкуль прыехаў Прэзыдэнт. Усе думалі, што ён зь Менску і прысланы Масквой. Але мы кожнаму казалі, што Прэзыдэнт М.Абрамчык з 1930 г. жыве ў Парыжы. Гэта навіна ўсхвалявала многіх, мы шмат ад каго чулі: «Трэба пайсьці, трэба паслухаць». Даклад быў назначаны на 5-ю гадзіну, але заля пачала запаўняцца з 4-й. Пры уваходзе Галя



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

й Мікола Лічкі прышпільвалі кожнаму бел-чырвона-белыя сьцяжкі.

Я прадставіў прысутным Старшыню Рады БНР М.Абрамчыка. Пасьля прывітальных словаў Прэзыдэнт даў кароткі агляд падзей на Беларусі у 1918—1920 гг., пазнаёміў з жыцьцём беларусаў у БССР і Польшчы 1921—1939гг., расказаў аб палітычнай сытуацыі беларускай эміграцыі й яе задачах. Даклад трываў больш гадзіны. Пасьля яго пачаліся пытаньні, на якія М.Абрамчык адказваў спакойна й упэўнена. Было пасьля 7-й гадзіны, калі украінцы пакінулі залю, але нашыя старыя эмігранты адыходзіць не сьпяшаліся. Мне здалося, што мы, новыя эмігранты знайшлі агульную мову зь імі.

Пасьля прыезду а. Лічко ў Кліўленд а. Капанадзі толькі аднойчы дазволіў яму ўвайсьці ў алтар. Верагодна, адну з нашых лістовак перадалі а.Капанадзі, пасьля чаго ён пазваніў а.Аляксандру й паведаміў, што той будзе 12-га лютага служыць. Гэтае паведамленьне мяне ўстрывожыла, бо пад час вынасу сьв. Дароў, а.Капанадзі маліўся: «За единую, неделимую святую Россию православную». А.Капанадзі ведаў, што дзеці а.Аляксандра прымалі ўдзел у распаўсюджваньні лістовак, прыпушчаў, што М.Абрамчык прыйдзе ў царкву сьв. Тэадосія. Хай-жа, думаў а.Капанадзі, Прэзыдэнт пачуе, як а. Лічко будзе маліцца.

Але ўсё адбылося інакш. А.Лічко нёс сьв.Дары павольна, і мы пачулі яго крышачку ўсхваляваны голас: «За православныя люди на Родине и в рассеянни сущих и за владыку нашего...» Пасьля службы а.Аляксандр сказаў мне, што а.Капанадзі застаўся вельмі нездаволены й паведаміў: «больше в алтарь не приходите». Пачынаючы з наступнай нядзелі, ён у казаньні прадасьцерагаў прыхажан ад кантактаў, знаёмстваў і дапамогаў беларусам сэпаратыстам, якія прыехалі ў Кліўленд з намерам разьбіць «единство русских нашего прихода». Такія казаньні ўзьдзейнічалі на людзей, бо ў царкве дыскусіяў няма. Калі з амбона сьвятар кожную нядзелю паўтарае хлусьню, прыхажане пачынаюць успрымаць яе як праўду. А а.Капанадзі гадамі казаў, што ёсьць толькі «русские люди» і адна «единая и неделимая Россия».

М.Абрамчык расказваў пра свой побыт у Чыкага. Паведаміў, што зь Я, Варонкам, Я.Чарапуком, М.Дзямідавым, І.Лабачом, М.Аблажэям і іншымі сябрамі БНР дамовіліся наладзіць акадэмію, прысьвечаную 32-ім угодкам абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Паколькі паміж Я.Варонкам і Я.Чарапуком прыяцельскіх суадносінаў не было (Я.Варонка быў дырэктарам расейскіх радыёперадачаў, якія Я.Чарапук крытыкаваў), таму ўзьнікла пытаньне, хто будзе галоўным прамоўцам на акадэміі. Прысутныя на пасяджэньні



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

згадзіліся запрасіць мяне. М.Абрамчык асабіста папрасіў паехаць у Чыкага.

Акадэмія ў Чыкага была вызначана на суботу, 25 сакавіка. Я прыехаў у пятніцу, 24-га. Сустрэў мяне М.Дзямідаў і паведаміў, што Я.Варонка й Я.Чарапук атрымалі тэлефанічныя й пісьмовыя пагрозы ад камуністычна настроеных асобаў. Тыя прапанавалі акадэмію адклікаць, або «мы яе разгонім». Мы паехалі да Я.Варонкі, пад'ехаў да яго і Я.Чарапук. Мы пачалі абмяркоўваць сытуацыю, бо нельга было ігнараваць пагрозаў. Вырашылі акадэмію не адклікаць, але папрасілі Я.Чарапука пагаварыць з тымі сябрамі, якія служаць у чыкагскай паліцыі. Той пазваніў некаторым і асьведчыў, што атрымаў запэўненьне: «Камуністы акадэміі не разгоняць, рыцары будуць патруляваць». Пасьля такога запэўненьня мы разам з М.Дзямідавым пайшлі да настаяцеля украінскай праваслаўнай царквы, каб ён адслужыў малебен за Беларускі Народ, а вечарам з Я.Чарапуком схадзілі да настаяцеля украінскай вуніяцкае царквы й дамовіліся, каб у нядзелю адслужыў паніхіду па загінуўшых беларускіх змагарах.

У суботу, каля пятай гадзіны сабраліся на малебен. Людзей было асоб каля 40, богаслужэньне было ўрачыстым. Спадарыня Дзямідава пашыла бел-чырвона-белы сьцяг, які Я.Чарапук разам з трымя рыцарамі Калюмба ўнесьлі ў царкву. Усе яны былі апрануты ў парадную уніформу й мелі аголеныя шпагі, трымалі варту каля нацыянальнага сьцяга. Закончыўся малебен, паехалі ў залю Леанарда на акадэмію, якая пачалася каля 7-й гадзіны. Сабралося каля 60 асоб, І зноў Я. Чарапук з рыцарамі ганарова ўнеслі наш сьцяг і на змену трымалі варту.

Акадэмію адчыніў І.Лабач, перадаў голас Я.Варонку, прэм'еру першага урада БНР. А.Варонка пазнаёміў прысутных з падзеямі, зьвязанымі з абвяшчэньнем Беларускай Народнай Рэспублікі. Пасьля Я.Варонкі прамаўляў М.Дзямідаў, які атрымаў ранг падпалкоўніка й пачаў арганізацыю беларускага войска ў 1918—1919гг. Пасьля іх выступіў я. Мой даклад быў прысьвечаны падзеям мінулае вайны й удзелу моладзі ў барацьбе за незалежнасьць. Гэтая моладзь змаганьня не спыняе і не спыніць. Мяняюцца асобы, адно пакаленьне адыходзіць на зьмену, прыходзяць новыя змагары, новая хваля патрыётаў штурмуе й пераможа, імпэрыя разваліцца й над Менскам залунае аднаго дня бел-чырвона-белы сьцяг. Спадарыня Дзямідава арганізавала мастацкую праграму. Яна спачатку сама, а потым разам з мужам Мікалаем прасьпявалі некалькі песьняў. Пасьля запрасіла на сцэну мяне, каб разам выканаць некалькі вайсковых песьняў. Нарэшце, выклікала з залі тых, хто ведаў «Люблю наш



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

край». Закончылі агульным сьпевам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

У нядзелю раніцай паехаў на радыястанцыю Я.Варонкі. Прывітаў беларусаў Чыкага ад імя беларускае змагарнае моладзі й запэўніў, што наша моладзь будзе змагацца з кожным акупантам Беларусі. Закончыў сваё выступленьне вершам Купалы. Пасьля перадачы паехалі ва ўкраінскую вуніяцкую царкву на паніхіду. Вярнуўся ў Кліўленд каля 6-й гадзіны раніцы у панядзелак.



Янка Чарапук-Змагар, надзвычайны пасол Міністэрства замежных справаў БНР у 1920-1922 гг., афіцыяльны прадстаўнік Беларускай нацыянальнай Сувязі ў Амэрыцы з даручэньня Рады БНР, арганізатар першага кангрэсу беларускай эміграцыі Паўночнай Амэрыцы ў 1923 г., Старшыня Чыкагскага падсэктару Рады БНР,— нарадзіўся 12.8.1896 г. у Новым Двары, Сакольскага пав. Горадзенскай губ. У 1914 г. паступіў на юрыдычны факультэт Пецярбургскага унівэрсытэту. З 1918 г. пачаў актыўна працаваць на карысьць БНР. Рада БНР дня 8.4.1922 г. упаўнаважыла яго да «прадстаўніцтва Беларускай Нацыянальнай Сувязі як на Беларусі, так і ў Амэрыцы.» Памёр 16.11.1957. Пазаваны ў Чыкага .

На здымку: Янка Чарапук-Змагар. 1952 г.

## ЖАЎНЕРЫ

/апрацоўка М.Куліковіча/

Словы і мелодыя Л.Звонкага

Як марш

І- дуць жаў-не-ры Бе- ла-
І- дуць жаў-не-ры і сьпя-
І- дуць жаў-не-ры Бе- ла-

І- дуць, і - дуць жаў-не- ры Бе-ла- ру- сі
І- дуць, і - дуць жаў-не- ры і сьпя- ва- юць
І- дуць і - дуць жаў-не- ры Бе-ла- ру- сі



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

нам во- лю на- кі- дацъ сьця-гі Па-
дык прэч зна-шай зям- лі вы на- шу
у кож-на- га із іх жаў- нер кра-

во- лю на- кі- дацъ сьця- гі Па
е з на- шай зям- лі вы на- шу
кож-на- га із іх жаў- нер кра-

го- ні ўжо ясь- не- юць іх ру- кі моц-ны- я дзяр-
кроў пі-лі га- да- мі сьмерць вам вы век свой ад- жы-
е - вай а- ба- ро- ны на вар-це стаў пра-воў сва-

го- ні ўжо ясь- но- юць іх ру- кі моц- ны- я дзяр-
кроўпі- лі га- да- мі сьмерць вам вы век свой ад- жы-
е - вай а- ба- ро- ны на вар- це стаў пра- воў сва-

жаць.
лі.
іх.

*fine*

жаць,дзяржаць.
лі, жы-лі.
іх, сва- іх.

1. Ідуць жаўнеры Беларусі
Праз вёскі і праз гарады,
Перамагаюць усе прымусы,
Што нас гнялі вякі-гады.
Няхай больш ворагі ня сьмеюць
Сваю нам волю накідаць,—
Сьцягі Пагоні ўжо ясьнеюць,
Іх рукі моцныя дзяржаць.

2. Ідуць жаўнеры і сьпяваюць,
Дзяўчатам сэрцы б'юць мацней.
Праменьні сонца ў зброі зьзяюць,
Калёны йдуць далей, далей,
А песьня рвецца над палямі:
Прэч, гадаўё, з нашай зямлі!
Вы нашу кроў пілі гадамі,
Сьмерць вам, вы век свай аджылі

3. Ідуць жаўнеры Беларусі
Праз вёскі і праз гарады,
Перамагаюць усе прымусы,
Што нас гнялі вякі-гады.
Сьцяг бел-чырвона-белы вольны
У сэрцы кожнага із іх.
Жаўнер Краёвай Абароны
На варце стаў правоў сваіх.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Сказ пра Рагнеду

Хведар Крыванос




Звычайная сялянская хата, у якой усё чыста, сьціпла, утульна... Мы, разам з Вольгай Бабковай, зайшлі ў яе, каб нечакана для саміх сябе пачуць паданьне тысячагадовай даўніны. Дагэтуль шмат сустракаўшыся са старажыламі Заслаўля, чулі ўвесь час толькі горкія ўспаміны людзей пра апошнія дзесяцігодзьдзі жыцьця, а тут раптам... сказ пра Рагнеду, і такі просты, сардэчны, шчыры, што ніводны пісьменьнік ніколі-б яго ня прыдумаў.

Марыя Вашкевіч, якой, як потым высьвятлілася, споўнілася ўжо сто тры гады, сустрэла нас у ціхі дажджлівы вечар, ветліва запрасіла ў хату. Жанчына прапанавала нам прысесьці і ўважліва выслухала нашы тлумачэньні — з чаго гэта мы да яе зьявіліся. Пасьля першых хвілін размовы зь ёю я адчуў, што раней недзе сустракаў яе. І нечакана ўспомніў: у Заслаўскай Спаса-Праабражэнскай царкве, дзе раней знаходзіўся музэй народных рамёстваў і промыслаў. Не, яе тады цікавілі не музэйныя экспанаты: шыяны, лапці, сякеры, — іх яна на сваім вяку пабачыла вялікае мноства. Марыя Вашкевіч прыходзіла да таго месца, дзе раней знаходзіўся алтар, і ціха, пранікнёна, каб ніхто ня чуў, малілася.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

І вось новая сустрэча. Як ужо не раз бывала ў нашых этнаграфічных дасьледваньнях, мы сталі задаваць розныя пытаньні. Нас цікавіла мінуўшчына Заслаўя, аднаго з старажытнейшых беларускіх гарадоў. Па старай звычцы я запытаўся і аб Рагнедзе:

—Ці ня чулі Вы калі-небудзь ад сваіх родзічаў або знаёмых лягенды, паданьні пра полацкую князёўну Рагнеду?

Марыя Вашкевіч па-добраму ўсьміхнулася і зь нейкай разгубленасьцю адказала:

— Ну чула, чула, але-ж зь ёй-жа я не размаўляла, чуць чула...

Тады я, з надзеяй аб нечым даведацца, зноў паўтарыў пытаньне:

— А вось, што людзі казалі пра Рагнеду?

Жанчына яшчэ больш разгубілася, а можа па старасьці гадоў і не зусім разабралася, чаго ад яе я хачу, бо ціхмяна казала:

— Не магу, не магу Вам сказаць, не магу расталкаваць...

—Але-ж імя такое чулі? — не адступаў я.

— О, чула, о.., імя я чула...

— І ў дзяцінстве чулі, і ў маладосьці?

І тут, пры апошнім пытаньні здарылася нешта дзіўнае: словам простым пра дзяцінства закрануў я, сам таго не ўсьведамляючы, нешта глыбокае ў яе душы. Марыя Вашкевіч узрушылася, прыкметна ажывілася і, нарэшце, загаварыла:

— У дзяцінстве... яшчэ гавораць... вось там, недалёка ад нашай дзеравушкі... гаварылі: тут Рагнеда праязджала й пацярала грабяшок, цераз, там такі роў бальшы, дык там, гавораць, яна на кані, вярхом праязджала й пацярала грабяшок. Гэта ўсягда, усе гаварылі, успаміналі...

Божа мой! Мы не верылі, што чуем жывое паданьне пра Рагнеду. — Настолькі замілаванымі, шчырымі нам паказаліся словы Марыі. Колькі разоў пыталіся ў старажылаў Заслаўя аб славутай полацкай князёўне — ніхто нічога цікавага не апавядаў, а калі што і казалі, дык усё нешта штучнае, не жывое, ужо перайманае з газэтаў, тэлебачаньня, радыё.

— А дзе той роў, бабуля? — зноў пытаемся ў яе.

—Между Сяляўшчынай і Лабэншчынай, недалёка ад Заслаўя, — ахвотна адказала жанчына.

Мінула некалькі месяцаў пасьля нашай памятнай сустрэчы. Шмат што зьмянілася за гэты час. Новыя, незвычайныя падзеі здарыліся і ў жыцьці Заслаўя.

У вясну 1990 года жыхары горада ўзнялі пытаньне аб вяртаньні веруючым незаконна адабранай у 1961 годзе Спаса-Праабражэнскай царквы. 29 траўня



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

гарсавет Заслаўя даў згоду на рэгістрацыю ў горадзе праваслаўнай хрысьціянскай грамады. У нядзелю, 19 жніўня 1990 года вакол царквы адбылася ўрачыстая літургія, прысьвечаная традыцыйнаму народнаму сьвяту Спаса. На ёй прысутнічала болей чым за 3000 чалавек. Трохгадзінную службу адпраўляў сябра Сынода БПЦ а. Іван. Па сканчэньні малебна, людзі ўтварылі вялікае кола, і сьвятары ўпершыню за апошнія 30 годоў сьвяцілі ў Заслаўі яблыкі.

Не здолела толькі пабачыць гэтае сьвята Марыя Вашкевіч, якой пайшоў ужо 104 год. Між іншым, яна з двух гадоў расла сіратой, без матчынай ласкі й бацькоўскай апекі. Захаваўшы нам цудоўнае паданьне пра Рагнеду, яна на высьвячэньне царквы не прыйшла. Мабыць, здароўе ўжо не тое. А яшчэ год назад прыходзіла яна да музэйнай вітрыны й амаль-што моўчкі малілася на паланены цывілізаванымі варварамі абраз. І хто ведае, магчыма, ўзгадвала пры гэтым імя Рагнеды-Анастасіі, якая першай прыняла хрысьціянства на землях Беларусі.



На здымках: Рагнеда—мастак Я.Кулік; Заслаўскі замак (рэканструкцыя архіёлягаў), на дзядзінцы — Спаса-Праабражэнская царква.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Пра апазыцыю «паганства—хрысьціянства» ў «СЛОВѢ О ПЛЪКУ ИГОРЄВѢ»

Міхась Булахаў

Найвялікшы літаратурны помнік Старажытнай Русі — «Слово о плъку Игорєвѣ», васьмісотгадовы юбілей якога пад эгідай ЮНЕСКА нядаўна адзначыла сусьветная грамадзкасьць, захапляе нас ня толькі эпічнай прыгажосьцю мовы, лаканізмам стылістычных фігур, незвычайнай гармоніяй гукаў, але й сваёй паэтычнай вобразнасьцю, не да канца разгаданымі алегорыямі й мэтафарамі, за якімі хаваюцца асаблівасьці сьветапогляду й культуры нашых далёкіх продкаў.

Ад «Слова» пачалася літаратурна - паэтычная традыцыя ўсходняга славянства, якая на працягу ўсёй гісторыі зьвязана з жыватворнымі крыніцамі вуснай народнай творчасьці — спачатку паганскай, а затым хрысьціянскай. Дасьледчыкамі старажытнарускай літаратуры ўжо даказана, што раньнія ўсходнеславянскія духоўныя й сьвецкія (мірскія) творы вельмі ярка адлюстроўваюць барацьбу хрысьціянскай ідэялёгіі й наогул хрысьціянскай культуры з паганставам, якое засноўвалася на веры ў розныя прыродныя культы — наземныя й касмічныя (напрыклад, культ вады, культы расьлін, жывёлін, птушак, культы нябесных сьвяціл і інш.).

Славяне да пэўнага часу таксама былі паганцамі, і перажыткі «паганскай» міфалёгіі ў іх сьвядомасьці захаваліся аж да нашага часу. Ня дзіўна, што ў XII стагодзьдзі, калі было створана «Слово о плъку Игорєвѣ», яны давалі аб сабе ведаць яшчэ больш выразна й моцна, хоць хрысьціянства ўжо стала афіцыйнай рэлігіяй. У той час хрысьціянскія паняцьці атаясамліваліся з усім станоўчым, сьветлым, радасным, жыцьцядзейсным і г.д. Наадварот, паганства ўяўлялася як усё адмоўнае, непрыемнае, цёмнае. Але, відаць, нярэдка ў сьвядомасьці людзей суіснавалі побач адны й другія паняцьці. Ці было гэта праяўленьнем «дваяверства», цяжка сказаць, але на шматлікіх прыкладах можна паказаць наяўнасьць у паэтычнай (наогул у літаратуранай) творчасьці таго часу некалькі вобразных апазыцый, сярод якіх была й апазыцыя «паганства—хрысьціянства».



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Паспрабуем разглядзець толькі апошнюю апазыцыю, прычым на матэрыяле адной кампазыцыйнай часткі «Слова», якая называецца «Плачам Яраслаўны».

Той, хто глыбока ўчытваўся ў сэнс гэтай часткі твора, ня мог не заўважыць яе незвычайнай мэтафарычнасьці й сымбалічнасьці, заснаваных на веры ў тры стыхіі: атмасфэрную (вецер), водную (рэкі Дунай, Каяла, Днепр, мора) і касмічную (сонца). Яраслаўна, як тыпізаваны вобраз славянскай жанчыны, у глыбокай роспачы зьвяртаецца да гэтых стыхій і сьлёзна просіць іх як-небудзь дапамагчы трапіўшым у бяду яе мужу й усім «русічам». Яна як быццам яшчэ верыць у тое, што гэтыя стыхіі адгукнуцца на яе заклінаньні й ласкавыя велічаньні з дапамогай тытула ўладароў—«господинє». Але, відаць, яны застаюцца глухімі да людзкога гора, яны ўсё яшчэ спрыяюць ворагам «русічаў», і тады ўжо Яраслаўна кідае ім абвінаваўчыя поклічы: **«О вѣтрѣ, вѣтрило! Чєму, господинє, насильно вѣєши? Чєму мычєши хиновьскыѫ стрѣлкы на своєю нєтрудною крилцю на моєѫ лады вои?», «Чєму, господинє, моє вєсєліє по ковылію развѣѫ?»; «Свѣтлоє и трєсвѣтлоє слънцє! Всѣмъ тєпло и красно єси: чєму, господинє простре горѧчую свою лучю мна ладѣ вои? Въ полѣ бєзводнѣ жаждєю имъ лучи съпряжє, тугою имъ тули затчє?»** (цыт. па кн.: Слово о полку Игореве. Библиотека поэта. Малая серия. Изд. 4-е., Советский писатель. Л., 1990. с. 64—65).

Стыхійныя сілы так і засталіся неспагадлівымі да трагічнага лёсу Ігара й яго дружыны. У супрацьлегласьць ім, распачлівы плач Яраслаўны быў пачуты сапраўдным прыхільнікам людзей, уладаром усясьвету — Богам (а яму-ж, напэўна, малілася ня толькі Яраслаўна, але й палонны Ігар, які, згодна зь летапіснымі выданьнямі, меў пры сабе сьвятара). Дзякуючы гэтаму, Ігар не пакарыўся паганым («нехрышчоным») полаўцам, а прыняўшы разумную параду свайго слугі Аўлура (гэты найміт - полавец ужо быў хрышчоным), вырашыў уцячы з ганебнага для князя палону.

Аўтар піша невыпадкова: «**Игорєви князю богъ путь кажєтъ изъ зємли Половєцкой на зємлю Рускую, къ отню злату столу»** (б.65). Бог-заступнік аказвае розныя паслугі ўцекачам, ён істотна ўплывае й на паводзіны раней неміласэрных стыхій : Ігар бесперашкодна пераплывае Данец і палюе на розную дзічыну; Данец дапамагае яму схавацца ад пагоні; Данец нават ганарыцца сваёй дапамогай: «**Донецъ рєчє: «Княжє Игорю! Нє мало ти вєличія, а Кончаку нєлюбія...»** У адказ Ігар прыносіць сардэчную падзяку за ўсе добрыя паслугі: **«О Дончє! Нє мало ти вєличіѧ, лєлѣявшу**



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

**кнѧзѧ на влънахъ, стлавшу єму зєлѣну траву на своихъ срєбрєныхъ брєзѣхъ, одѣвавшу єго тєплыми мъглами подъ сѣнїю зєлєну дрєву; стрєжашє єго гоголємъ на водѣ, чайцами на стружѧхъ, чрьнѧдьми на вєтрѣхъ»** (б. 66—67).

Цікава і тое, што калі Гзак і Ганчак, даведаўшыся пра пабег Ігара, пускаюцца ў пагоню, па волі Бога, птушкі, якія звычайна пры паяўленьні небясьпекі паводзяць сябе неспакойна, ні адзіным гукам не выдаюць напрамак пабегу ўцекачоў: **«Тогда врани нє граахуть, галици помлъкоша, сорокы нє троскоташа, полозїє ползоша только»** ( **б. 67**). І толькі **«Дѧтловє тєктомъ путь къ рѣцѣ кажуть, соловїи вєсєлыми пѣсьми свѣтъ повѣдають»** (б. 67).

Як памятае чытач, аўтар «Слова» паведамляе нам, што ў самым пачатку паходу Ігаравых дружын у палавецкія стэпы, адбылося сонечнае зацьменьне, якое прадвяшчала няшчасьце. Забабонныя людзі лічылі гэтую астранамічную зьяву вынікам дзеяньня злых сіл і адмаўляліся ісьці на вайну, раячы й князю Ігару зьмяміць свой намер, але той рашуча адказаў: «**Братьѧ и дружинoї Таины божиѧ никто жє нє вѣсть, а знамєнию творѣць богъ и всєму миру своєму. А намъ что створить богъ — или на добро, или на нашє зло — а то жє намъ видити»** (Запіс зь Іпацьеўскага летапісу пад 1185г. Цыт. па кн.: Літописні оповіді про похід князя Ігоря. Упорядкування В.Ю. Франчук, Навукова думка, Київ, 1988. б. 80.) Аўтар «Слова» гэтую дэталь апавяданьня знарок ці незнарок прапусьціў, затое з вуснаў яго героя мы чуем сьмелы заклік: **«Братїє и дружино! Луцє жъ бы потѧту быти, нєжє полонєну быти; а всѧдємъ, братїє, на свои бръзыяѧ комони, да позримъ синєго Дону».«Спал кнѧзю умь похоти и жалость єму знамєнїє заступи искусити Дону вєликаго»**(б.48). Значыць, і ў гэтым выпадку Ігар-хрысьціянін проціпастаўляе злой, цёмнай сіле сілу боскою, на яе ён ускладае сваю надзею, хоць такой надзеі й не давялося збыцца. Праўда, нябеснае сьвяціла, ва ўнісон агульнай радасьці на Русі ў сувязі з вызваленьнем Ігара з палону й вяртаньня яго на радзіму, таксама праявіла сваю шчодрасьць: **«Солнцє свѣтитсѧ на нєбєсѣ»** (б. 68). Ня менш узрадавалася й водная стыхія, дзякуючы якой велічальныя песьні ад Дуная (відаць, з Галіцкага княства — уладаньня бацькі Яраслаўны) даносіліся да Кіева: **«Дѣвици поють на Дунаи — вьютсѧ голоси чрєзъ морє до Кїєва»** (б.68).

З аўтарскага тэксту мы ведаем таксама, што Ігар, вярнуўшыся з палону, накіраваўся ў кіеўскую царкву Багародзіцы Пірагошчай, дзе, напэўна, маліўся з



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

пакаяньнем, за дапушчаныя грахі (да 1185г. ён удзельнічаў у міжусобных княскіх «крамолах», а галоўнае —у красавіцка-травеньскім паходзе на полаўцаў згубіў некалькі тысяч свайго войска). Пасьля гэтага Ігар наведаў вялікага князя Кіеўскага Сьвятаслава й ў прысутнасьці баяр і ваявод, відаць, кляўся адпомсьціць ворагам, паганцам-полаўцам. Па сутнасьці гэта была сьвяшчэнная вайна «русічаў» - хрысьціян з паганцамі — вандроўнымі палавецкімі плямёнамі, якія ў XII стагодзьдзі аб'ядналіся пад сьцягам ханаў Канчака й Гзака й сталі грознай сілай, гатовай поўнасьцю захапіць і зруйнаваць Русь. Нездарма аўтар «Слова» ў самым канцы заклікае: **«Здрави князи и дружина, побаражъ за христьяны на поганыя плъки!** — на сучаснай мове значыць: **«Няхай жывуць князі й войска, якое змагаецца за хрысьціян супраць паганых** (чытаем: **«паганскіх»**) **палкоў!**

# Плач Яраслаўны

## Пераклад Майсея Сяднёва



Ігар ў паходзе зьнемагае, слаўны,
а ў Пуціўлі плача горна Яраслаўна,
бы тая зязюля рана-рана гукае няўцешна,
смуткуе і плача,
працінае сэрца сьлязою гарачай:

«Птушкай па Дунаю палячу я,
у рацэ Каяле памачу я
рукавок я свой бабровы,
тваe раны ім абмыю,
накладу на раны,
каб суцішыць раны».

У часіне гэтакай няветлай
Яраслаўна зварачаецца да ветру:
«Ветрыку, вятрыска,
ну пашто, зацяты, ашалелы,
гоніш ханскія ты стрэлы?
Ці ня досыць табе будзе



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



імі біць у вояў маіх грудзі?
Нізка ходзіш ты й высока,
узьлятаеш пад аблокі,
па тваёй пакоры
караблі бягуць у моры,
дык ці мала з цябе, ветру?
Знаю, ты магутны, сьмелы,
адвярні ад мужа майго стрэлы!»
Яраслаўны плач-мальба ня ціхне,
да Няпра зьвяртаецца ў Пуціўлі:
«Непру, Непру, мой Славуце,
памажы маёй пакуце.
Ты праз горы сілай маладзецкай
да зямлі прабіўся палавецкай.
Мірна твае хвалі
Сьвятаслававы чаўны гайдалі,
з дапамогай сілы твае шматвяковай
даплылі да стану Кабякова.
Жывым майго мужа, любы сыне,
плыняю спагаднай прынясі мне.
Ці-ж у твае воды сінія замала
гарачыя сьлёзы я раняла?»
У мальбе пакорнай і бясконцай
Яраслаўна моліцца да сонца:
«Сонца, сонейка,
зямельцы наскай
сьвеціш ты гаючай ласкай.
Ды чаму ты промнем агнявістым
спапяляеш усё чыста—
ні травінкі, ні раслінкі ў полі,
смагі нашы вoi ня могуць спатоліць.
Сонейка, прыкрыйся цёмнай хмарай,
уратуй ад сьпекі майго Гаспадара.
А ці накіруйся да свайго заходу,
дай ты нашым воям прахалоду».

1991 г.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012


# Слова пра «Спадчыну»

Сьвятлана Белая

З чаго пачынаецца




***Зь любасьці да Роднай старонкі, Роднага кута, зямлі Беларускай?***
***З разуменьня непаўторнай прыгажосьці мовы тваіх бацькоў, дзядоў- І прадзедаў ???***

***З хвалюючага бабулінага паданьня пра далёкую мінуўшчыну?***
***Або зь ледзь бачных твараў тваіх продкаў на пажаўцелых ад часу сямейных фотаздымках?***

*А можа пачынаецца спадчына з усьведамленьня, што ты не бязродны, ты — Беларус. І маеш такое багацьце мінулае, такі вялікі скарб духоўнасьці, зь якім ніякія спадкі параўнацца ня могуць.*

Для многіх маіх сяброў і мяне ў тым ліку спадчына пачалася з... «Спадчыны», Менскага гарадзкога клюба. І справа ня толькі ў тым, што тут мы упершыню не ўрыўкамі, ня ў поцемках, не праз працертыя ад частага карыстаньня машынапісныя перадрукі «падпольнай» літаратуты, свабодна слухалі праўду аб нашай шматпакутнай, але такой чароўнай гісторыі, аб яе героях і катах. Што з ломкіх старонак старадрукаў, з прыгожых краявідаў на слайдах, з гарачых аповядаў прамоўцаў даходзілі да нас жывыя галасы нашых вольналюбівых продкаў.Тых, хто жыў на нашай зямлі, складаў пра яе песьні, склікаў Пагоню, калі неабходнасьць прымушала, і аддаваў за яе сваё жыцьцё. У гэтым першым на Беларусі клюбе, дзе нефармалы, нарэшце, мелі свой кут, мы адчулі сябе, як і продкі нашыя некалі, спадарамі сваёй спадчыны, а не жабракамі бяздомнымі.

Сталася гэтае ў 1984 годзе, калі рэабілітацыя нашай гісторыі, ачышчэньне яе ад сьлядоў сталінскай інквізіцыі толькі-толькі пачыналася. Пэўна, што клюб, мэта якога была вяртаньне нашай гісторыі й памяці, забытых імёнаў



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

беларускага народа, ніяк ня мог стасавацца з жаданьнямі апаратчыкаў. У іх сьвядомасьці нават Еўфрасіньня Полацкая яшчэ атаясамлівалася зь сярэднявечнай манашкай. А бел-чырвона-белы сьцяг, пад якім зьбіраліся спадчынцы, наогул здаваўся нацысцкім палотнішчам.

Калі перад адкрыцьцём «Спадчыны» клюб наведалі былы старшыня раённага выканаўчага камітэту Герасіменка й яго намесьнікі, то на душы іх было неспакойна. Па-першае, з падобнай праблемай яны сутыкаліся ўпершыню й ня ведалі, як адрэагуе на гэтую ініцыятыву іх кіраўніцтва. Па-другое, тыя добра разумелі, што дзейнасьць клюба, у якім нефармалы пачнуць зьбірацца вечарамі, ім будзе цяжка кантраляваць. Але прыгожая галярэя «Сыны зямлі беларускай», што разьмяшчалася ў клюбе, неяк супакойвала. Праўда, на адным гербе пільнае вока заўважыла крыж. Адразу ўзьніклі пытаньні: што гэта за крыж і дзеля чаго ён тут? Добра, што старшыня клюба Анатоль Белы хутка ліквідаваў непаразуменьне й растлумачыў, што крыж называецца Ярылаў, у Беларусі ён вядомы як Еўфрасінеўскі. А наогул гэта герб Слуцака. Старшыня райвыканкама прыгадаў, што герб зьяўляецца і сымбалем Віцебска, бо яго выяву ён бачыў на прамысловых таварах горада. Такое веданьне маркі віцебскіх прадпрыемстваў і выратавала становішча. Астатнія сябры камісіі таксама пагадзіліся, што твор мае каштоўнасьць. Партыйныя босы далі згоду на існаваньне «Спадчыны», й гэта была першая перамога.

## Вытокі «Спадчыны»

20 лютага 1985 г. ў Менску, па вул. Мендзялеева,3 гасьцінна адкрыўся клюб, назва якому была «Спадчына», кліч: « Каго любіш? —Люблю Беларусь!»

Усе нашае, крэўнае пачынацца з слова, зь песьні. «Спадчына» таксама нарадзілася з крынічных мэлёдыяў нашага народа. Пасьля цёплых словаў, сказаных шматлікімі гасьцямі, зазьвінелі беларускія песьні. Гучалі музычныя прывітаньні вучняў-выхаванцаў Галіны Сіўчык, узрушаныя звонкія галасы нефармалаў на чале з добрай сьпявачкай і аматаркай беларускага фальклёру Віялетай Яфіменка. А як шырока й раздольна сьпяваў у той вечар Янка Брыль!..

Зь песьні-гімна «Пагоні» пачалося й першае пасяджэньне спадчынцаў, на якім доктар права, прафэсар Іосіф Юхо расказваў пра вытокі нашай дзяржаўнасьці. Гістарычная праўда гучала ў клюбе з гарачых прамоў Адама Мальдзіса, Генадзя Каханоўскага, Анатоля Грыцкевіча, Генадзя Штыхава, Кастуся Тарасава, Алега Бембеля, Анатоля Цітова й іншых дзеячоў беларускай



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

культуры. Крышку пазьней, госьці з Амэрыкі й Англіі — Данчык і спадарыня Юля Андрусышына, а.Аляксандр Надсон, Юрка Станкевіч знаёмілі з жыцьцём, навуковымі працамі, культурнымі й грамадзкімі падзеямі беларускай эміграцы. У «Спадчыну» пацягнуліся самыя няўрымсьлівыя праўдалюбцы, нацыянальна сьвядомыя й патрыятычна настроеныя людзі. І зусім невыпадкова, што тут сустракаліся й абмяркоўвалі праблемы кіраўнікі будучых суполак «Талака», «Тутэйшыя», «Сьвітанак», «Золак»; усе тыя, хто потым увайшоў у Народны Фронт.

Кожная сустрэча ў клюбе была прадчуваньнем нейкай радасьці. Колькі цікавага, невядомага пра гісторыю маёй зямлі, пра кожны куточак роднага краю пачула ў «Спадчыне»! Але адну сустрэчу1986 г., мабыць, буду помніць заўсёды.

*У сутарэньні, у «Спадчыне» Белага*
*Няма дзе яблыку ўпасьці.*
*«Што тут сёньня?» - пытаю нясьмела:*
*«Сёньня сустрэча — бы шчасьце».*
*Тут сёньня Мікола Іванавіч*
*Аповяд вядзе гістарычны,*
*Гартае мінуўшчыну нанава —*
*Дорыць настрой крынічны.**

У той памятны вечар клюб даў мажлівасьць упершыню публічна выказаць свае погляды на беларускую гісторыю апальнаму ў той час Міколе Ермаловічу. Але тым шчасьлівым сустрэчам у «Спадчыне» лёс наканаваў перарвацца.

## За права беларусамі звацца

На тым памятным пасяджэньні інкогніта прысутнічала і былая загадчыца ідэялягічанга аддзела Менскга гаркама КПБ Ядзвіга Юферава. У яе быў свой, партыйна-гістарычны погляд на стварэньне нашай дзяржавы, а таксама свае адносіны да навуковых працаў «неафіцыйных» гісторыкаў. Таму праз некйкі час старшыня клюба меў нагоду праслухаць лекцыю Я.Юферавай на «гістарычную» тэму ў яе кабінеце. Абвінавачваўся ня толькі Ермаловіч і яго канцэпцыя, «варожая нашаму дыялектычнаму мэтаду», але і кіраўнік клюба, які ня даў «адпору лектару, не раскрыў яго буржуазны нацыяналізм». Падобныя словы ў тыя часы каштавалі шмат крыві й нерваў, хаця на двары стаяла другая вясна перабудовы.

Праз некаторы час у апаратчыкаў зьявілася новая прычына для спатканьня зь кіраўніцтвам «Спадчыны». У лютым 1986 года, за два гады да 150-гадовага юбілею з часу нараджэньня Кастуся Каліноўскага, клюб зьвярнуўся з адкрытым лістом у вышэйшыя партыйныя, дзяржаўныя ўстановы, ва ўсе творчыя саюзы й органы друку Беларусі з прапановай шырока адзначыць

* Яўген Гучок. «Слова пра Міколу Ермаловіча»



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

гэтую дату, стварыць музэй і помнік выдатнаму беларускаму патрыёту. І адразу раззлаваныя чыноўнікі накінуліся на спадчынцаў, маўляў, хто вы такія, каб даваць свае прапановы вышэйшай уладзе, што ёй трэба рабіць, аб чым клапаціца? Райкомаўцы зноў наведалі клюб. Але повадў, каб расправіцца зь «Спадчынай», яны не знайшлі.

Апошняй кропляй, што перапоўніла чашу іх цярпеньня, стала Купальле, якое клюб у чэрвені 1986 г. ладзіў у Вязынцы. Спадчынцы ўжо ўсклалі кветкі да помніку Янкі Купалы, калі да іх падыйшоў вялікі атрад міліцыянераў і людзей, пераапранутых у цывільнае. (Яны выйшлі зь міліцэйскіх й пажарных машынаў, якія стаялі непадалёк). Маёр Верас (зараз ён ужо падпалкоўнік) загадаў усім ехаць назад у Менск і разыходзіцца па дамах. Толькі спадчынцы — народ не з пужлівых. Ніхто не павярнуў да хаты.

Але не пасьпелі Купалінка й Князь запаліць купальскае вогнішча, як іх акружылі цёмныя сілы, на чале з тым-жа Верасам. На гэты раз ён пайшоў на сапраўдную правакацыю— выстраліў у лесе і стаў абвінавачваць у тым стрэле удзельнікаў Купальля. Толькі яго правакацыя вельмі хутка выкрылася... недасьведчаным у гульнях дарослых хлопчыкам. На крыкі Вераса да вогнішча зьбегліся турысты. Разам зь імі быў і наш выратавацель. Калі малы пачуў міліцэйскую хлусьню, ён ня вытрымаў і, дачакаўшыся, калі Верас на хвілінку замоўк, каб перавесьці дыханьне, сказаў: «Дзядзенька, так гэта-ж вы стралялі зь пісталета. Я сам бачыў...» Браваму маёру так і не ўдалося выканаць партыйнага даручэньня. Купальскія песьні гучалі над Вязынкай да сьвітаньня.

Але «памылку» міліцыянераў хутка выправілі пажарныя, якія ў мэтах «пажарнай бясьпекі» забаранілі зьбірацца ў клюбе больш за 5 чалавек. Раённы камітэт партыі хуценька адштампаваў пастанову: «У сувязі з тым, што вадаправодныя камунікацыі ў клюбе знаходзяцца ў аварыйным стане, лічыць немагчымым далейшую эксплуатацыю памяшканьня для «Спадчыны».

**17 сьнежня 1986 года** зь беларускай культурай «Вандэя» ўчыніла сапраўдную расправу. Мясцовыя «ўладары», якія навесілі на «Спадчыну» і яго кіраўніцтва ярлык нацыяналістаў, ўзламалі замкі ў дзьверах пры ўваходзе ў клюб, сарвалі яго шыльду-эмблему, а ўсе творы мастацтва ( болей за 1500 экзэмпляраў) перавезьлі й ськівулі ў бомбасховішча па вул. Уральская,9.

Пацягнуліся доўгія месяцы і гады змаганьня за выратаваньне клюба. Яго кіраўніцтва дабівалася сустрэчы з сакратаром ЦК КПБ па ідэялёгіі В.А. Пячэньнікавым, былым загадчыкам аддзела культуры ЦК КПБ І.І. Антановічам, з партыйнай бюракратыяй усіх рангаў. Але пры тых негатыўных адносінах да



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

ўсяго беларускага разбэшчанага чыноўніцтва, якія выракліся свайго роднага, бацькоўскага, пры тым нацыянальным нігілізме, які існуе ў партбюракратыі, дапамогі ніякай не настала. Наадварот, перашкоды толькі узмацьніліся. Не раз дамоўленасьць зь кіраўніцтвам нейкай арганізацыі на арэнду памяшканьня адмянялася за некалькі гадзін да пасяджэньня па нечым «тэлефонным загадзе». Адну сустрэчу нават праводзілі ў двары Інстытута народнай гаспадаркі, бо залю, дзе павінны былі сабрацца спадчынцы, рэктар інстытута зачыніў на замок сам. Але клюб працягваў жыць і змагацца.

## Мастацкая «Спадчыніяна»

Такі-ж нялёгкі лёс выпаў і на долю музэя «Спадчыны», у запасьніках якога старшынёй клюба было сабрана больш за 1000 твораў беларускай графікі, 100 алейных і акварэльных работ, 300 твораў мэдальернага мастацтва (для параўнаньня: у Беларускім дзяржаўным мастацкім музэі захоўваецца толькі 25 мэдалёў). Першую сваю выстаўку, прысьвечаную Францішку Скарыне, кіраўніцтва клюба арганізавала у сьнежні 1984 года ў Белдзяржунівэрсытеце. Тады-ж са сваіх запасьнікоў яно падарыла унівэрсытэту 103 графічных твора, дзякуючы чаму была створана мастацкая галярэя графікі. (На жаль, яна існавала толькі год, бо частка калекцыі была разрабавана і рэшткі прыйшлося зьняць і захаваць).

У студзені—травені наступнага года «Мастацкая Скарыніяна» экспанавалася ў Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі імя П.Броўкі, а ў лістападзе-сьнежні — у бібліятэцы АН БССР імя Я.Коласа. З цудоўнымі творамі, прысьвечанымі вялікаму Палачаніну пазнаёміліся і жыхары Гомеля, Магілёва й Яраслаўля. Але як толькі «Спадчына» перайшла на паўпадпольнае існаваньне і стала неафіцыйна забароненай арганізацыяй, дзейнасьць клюба ў справе прапаганды выяўленчага мастацтва Беларусі пачала сустракаць шалёныя перашкоды з боку партыйцаў.

...Менск стракацеў бел-чырвона-белымі афішамі, якія запрашалі 21 ліпеня 1986 года ў Палац культуры Белсаўпрофа на адкрыцьцё выстаўкі «Мастацкая Скарыніяна» ( з калекцыі Анатоля Белага). Запрашэньні зь выявай Скарыны былі разасланы ва ўсе ўстановы горада. Але выстаўка так і не адбылася. «Мастацкая Скарыніяна» была забаронена ў дзень яе вернісажу. Падобная гісторыя здарылася і з выстаўкай Кастуся Каліноўскага, у тым-жа Палацы культуры. Прыйшлося яе тэрмінова ладзіць у Тэхналягічным інстытуце. Але і тут яна экспанавался толькі некалькі гадзін, пакуль праводзіўся вечар, прысьвечаны 150-годзьдзю з часу нараджэньня К.Каліноўскага. Пасьля гэтага яна без усялякага



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

паведамленьня й згоды з боку кіраўніцтва клюба была дэманціравана .

На шчасьце, гэта быў апошні выпадак цывілізаванага варварства. Праз некаторы час выстаўка «Кастусь Каліноўскі й студзеньскае паўстаньне» экспанавалася ў Палацы чыгуначнікаў і выставачнай залі Дырэкцыі Літаратурных музэяў. А летам 1989 года ў Палацы культуры Белсаўпрофа прайшла першая ў рэспубліцы выстаўка «Мэдальернае мастацтва Беларусі»,арганізаваная спадчынцамі. Некаторыя яе экспанаты былі прадстаўлены на выстаўцы «Францішак Скарына й яго час», якая працавала пад час XIX сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

Зараз старшыня клюба працуе над стварэньнем новай экспазіцыі, прысьвечанай Максіму Багдановічу. Між іншым, клюб «Спадчына» выступіў са зваротам да ўсіх грамадзян Беларусі, грамадзкіх і рэлігійных суполак, рэдакцый часопісаў і газэт, каапературываў, да ўсіх тых, у «каго сэрца начамі па радзімай старонцы баліць» стаць дабрачынцамі-фундатарамі ў стварэньні да сотых угодкаў Максіма Багдановіча дома-музэя паэта ў Яраслаўлі й устаноўцы помніка ў яго гонар. А ў новым памяшканьні клюба, (нарэшце, «Спадчына» перамагла ў сваім змаганьні) зноў, як і 6 гадоў назад, сустракаюць усіх Рагнеда, Еўфрасіньня Полацкая, Францішак Скарына, Васіль Цяпінскі, Сямён Будны, Кастусь Каліноўскі, Цётка, Купала, Колас, Багдановіч да многія іншыя слаўныя сыны нашай Бацькаўшчыны. Каб ніколі не забыліся мы, што Беларускі народ — гэта ўсе тыя, хто любіў нашу Маці-Краіну, хто сваё жыцьцё ёй прысьвяціў. Каб ніколі не забыліся мы, што ўсе мы разам зь імі— адно цэлае.



«Ад прадзедаў спакон вякоў мне засталася спадчына»... Нашыя дзяды й бацькі пранесьлі праз усе «жыгімонта-вазаўскія», «мікалаеўскія», «аляксандраўскія», «сталінскія», «хрушчоўскія», «брэжняўскія» і іншыя «скія» наступы на яе, гэтую кволую й такую прыгожую краску зямлі Беларускай. І наш абавязак данесьці той бясцэнны скарб, які завецца «ласкай матчынай», да нашчадкаў.

Таму з-пад тоны папяровых забаронаў, праз усе бюракратычныя прыпоны й зьнявагі паўстаў на сьвет Божы клюб «Спадчына». Адрадзіўся, каб ніколі не забыліся беларусы, адкуль мы родам і дзе нашыя карані. Каб магутна й моцна гаварыла з усім сьветам душа Беларусі.

У год шасьцігадовага юбілею клюба рэдакцыя часопіса «Полацак» віншуе спадчынцаў з гэтай падзеяй. Няхай-жа тую высакародную ідэю, якую Вы несяцё ў жыцьцё, ніколі « не разьбіць, не спыніць, не стрымаць»!



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012





Шаноўныя суайчыньнікі!

Мы, сябры клюба «Спадчына», зьвяртаемся да Вас з просьбай стаць нашымі дабрачынцамі-фундатарамі й дапамагчы нам ў стварэньні дома-музэя клясіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча ў Яраслаўлі й устаноўцы ў горадзе бронзавага помніка паэту да сотых угодкаў з дня яго народзінаў.

Наш клюб з дня свайго заснаваньня на працягу шасьці гадоў вядзе асьветніцкую працу сярод насельніцтва Беларусі за адраджэньне нацыянальнай культуры, гісторыі, мастацтва, актыўна фарміруе нацыянальную сьвядомасьць нашага народу. Клюб «Спадчына» заўсёды быў пачынальнікам многіх мерапрыемстваў: арганізоўваў у Менску нацыянальныя сьвяты, адзначаў знамянальныя даты ў гісторыі нашага народу і жыцьці нацыянальных дзеячоў. Дзякуючы сваёй актыўнасьці, клюб «Спадчына» набыў у Беларусі і па-за яе межамі вядомасьць. Аб гэтым сьведчаць шматлікія публікацыі як у рэспубліканскім, так і ва ўсесаюзным і замежным друку.

Дзейнасьць клюба перасягнула межы Беларусі. Так, з красавіка па ліпень 1990 г. ў адным з самых мнагалюдных музеяў СССР — у Яраслаўскім гісторыка-архітэктурным музэі—запаведніку была наладжана выстаўка «Франьцішак Скарына й яго час». Яна-ж у пачатку верасьня мінулага года дэманстравалася ў беларускім грамадзка-культурным цэнтры «Полацак» ў час XIX сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Многія з вас, дарагія суайчыньнікі, маглі пераканацца ў яе мастацкай і агульнацыянальнай каштоўнасьці, у тым, што яна спрыяе агульнаму паразуменьню паміж усімі намі.

Улічваючы тое, што адпаведныя дзяржаўныя ўстановы не клапоцяцца аб захаваньні нашай нацыянальнай спадчыны і ставяцца ня толькі абыякава, а часамі і варожа да яе зьберажэньня, кіраўніцтва клюба ўзяла на сябе клопаты аб выратаваньні адзінага Багдановічаўскага доміка, які цудам захаваўся пасьля варварскага зьнішчэньня нашых нацыянальных сьвятыняў. А таксама ў стварэньні ў доміку музэя паэта, устаноўцы яго бронзавага помніка (аўтар Сяргей Вакар) і арганізацыі мастацкай выстаўкі «Максім Багдановіч і маладая Беларусь». Усё гэта клюб «Спадчына» імкнецца рэалізаваць да сотых угодкаў з дня нараджэньня паэта.

На правядзеньне гэтых мерапрыемстваў клюбу «Спадчыне» патрэбны грошы.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

І мы просім дапамагчы нам фінансава, бо ўрад не дапаможа. Мы зьвяртаемся за дабрачыннай дапамогай да сваіх суайчыньнікаў, якія жывуць па-за межамі Бацькаўшчыны, да ўсіх тых, у каго «сэрца начамі аб радімай старонцы баліць». Мы маем надзею, што Вы зразуемееце нашае становішча. Бо Вы добра ведаеце, што адзначыць гадавіну нашага Песьняра неабходна. Трэба, каб і ў Яраслаўлі, дзе паэт пражыў амаль трэцюю частку свайго жыцьця, ведалі, што мы, Беларусы, свайго Максіма шануем.

Дапамажыце, дарагія суродзічы, кожны ваш даляр нам дапамога, бо шмат якія матэрыялы, мы за рублі не дастанем, а можам купіць толькі за даляры.

**Прозвішча кожнага, хто ахвяруе 20 даляраў і болей, будзе адзначана ў спецыяльнай кнізе. Прозвішчы тых, хто ахваруе 50 даляраў і болей, будуць адліты на бронзавай дошцы пастамэнта помніка.**

Шчыра спадзяёмся на пасільную дапамогу з боку патрыётаў Беларусаў у стварэньні музэя і помніка клясіку нашай літаратуры. Свае ахвяраваньні просім перасылаць **у рэдакцыю часопіса «Полацак» з паметкай: «На помнік Максіму Багдановічу».** Загадзя выказваем нашыя шчырыя падзякі за ахвяраваньні, за дапамогу, якая пасужыць нашай Бацькаўшчыне, нашаму народу.

**Жыве Беларусь!**

Сябры клюба «Спадчына»






© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Угодкі клюба «Спадчына»

Павел Марціновіч

Бадай, не кожнаму салодкі
твой юбілей, твае угодкі,
Крывіцкай спадчыны аматар—
Хай крывіцца русіфікатар.
Тут не страха з «калгаснай вёскі» —
Луцкевіч, Будны, Каліноўскі.
Сапега й Астрожскі сьмелы,
(Ну і старшыня, спадар Ан.Белы...)
Музэй быў «Спадчыны» ў Сляпянцы.
Дарма! Благія меў ён шанцы:
Як мову родную матулі
Музэй аж пад зямлю запхнулі.
Ды ладзіць «Спадчына» выставы
невынішчальнай крыўскай славы.
За небакрай спаўзуць хмурыны,
Твой юбілей — у год Скарыны.

*** ***

Як пальцы аднае рукі —
мы, беларусы, сябрукі.
Павінны мы зьбірацца там—
дзе Божы дух, дзе Божы храм.
Няхай клянуць і кат, і хам
«варожыя ідэі»—
а нас атуліць Божы храм,
без санкцыі Вандэі.
У «Спадчыне» — мы назаўжды.
Не разьяднаць да сьмерці.
Каго хрысьцілі на Дзяды
З таго той знак не сьцерці.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# Крыніца

Мікола Шынкевіч



Плячыма, быццам Геркулес,
Ён падпіраў нябёсы,
І ганарыўся гэты лес
Сваім уласным лёсам.
Сьвяціўся волат, быццам Бог,
Маланкай-бліскавіцай,
Якою білася ля ног
Чысьцюткая крыніца.

І я не раз сьпяшыў сюды
І ў радасьці, і ў горы,
Каб асьвяжыць глытком вады
І свой язык, і горла.
І раптам, як у чорным сьне,
У сэрца гэтай Мэкі
Ўляцелі з гвалтам па вясьне
Зь сякерай дрывасекі.

Стаяў над ёю чорны дым.
І закрываў нялюба
Жалезны сталінскі рыжым
Крынічнай мове губы.
І пазабыўшы родны дом
Там, за калючым дротам,
Крыніца гасла дзень за днём,
Нямела з кожным годам...

І час настаў, запелі дні
Свабоднага грамадзтва,
Каб зноў пусьцілі карані
Культура й мастацтва.
Дык хай ля нашых моўных губ,
Ля сонечнага сэрца
Крыніцай вечнай б'ецца клюб,
Што «Спадчынай» завецца!



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Чарнобыль: спроба аналіза сітуацыі

Ірына Кісялёва

У кастрычніку 1990 г. у Вярхоўны Савет БССР былі перададзены матэрыялы па поваду стварэньня ў Беларусі Дзяржаўнага Камітэту па санітарна-гігіенічных і эпідэміялягічных пытаньнях. У дакумэнтах адзначалася, што за 1985-1989 гг. дэмаграфічныя паказчыкі ў рэспубліцы маюць адмоўную дынаміку.

У сувязі з чарнобыльскімі падзеямі гэтыя дадзеныя будуць пагаршацца з кожным годам: маладыя людзі баяцца ствараць сям'ю, раджаць дзяцей, бо ўсе жыхары Беларусі — і ў першую чаргу дзеці — заложнікі Чарнобыля. І працягвацца нашае заложніцтва будзе да тых часоў, пакуль на забруджанай радыеактыўнымі рэчывамі (РР) тэрыторыі не спыніцца вытворчасьць сельскагаспадарчай прадукцыі. Яе мы ўжываем на працягу пяці гадоў, паддаемся хранічнаму ўнутранаму апраменьваньню малымі дозамі радыяцыі. Каб зразумець наколькі гэта небясьпечна, дастаткова прыгадаць эксперымэнты па павялічэньню ўраджайнасьці, калі расліны апраменьваюць малымі дозамі. Аднак, працэс з раслінамі кіруецца вучонымі. Па лёгіцы, пры некіруемым апраменьваньні ў жывым арганізме магчымы бескантрольны рост клетак.

Але зьвернемся да вынікаў вучоных па поваду рызыкі, зьвязанай з ужываньнем забруджанай ежы. Восеньню 1989 г. на брыфінгу для журналістаў дырэктар Інстытута радыяцыйнай мэдыцыны акадэмік В.Мацюхін сказаў, што насельніцтва, якое жыве на тэрыторыі зь невысокай шчыльнасьцю забруджваньня (да 15 кюры на км$^2$), могуць атрымаць больш высокую дозу за кошт забруджанай ежы, і ў першую чаргу за кошт малака.

В.Мацюхін аказаўся праў, і Міністэрства аховы здароўя БССР ужо мае таму сьведчаньні. Сытуацыя, якая пагражае амаль усяму насельніцтву Беларусі праз 3-4 гады, ужо здарылася ў пасёлку Лельчыцы на Гомельшчыне .

Сааўтар трыццаціпяцібэраўскай канцэпцыі Ю.Ізраэль ведаў аб гэтым да выбуху на Чарнобыльскай АЭС. У сваёй кнізе ён пісаў, што ёд-137, ізатопы стронцыю, рутэнію і барыю валодаюць вялікай рухомасьцю і магчымасьцю да міграцыі ( з глебавымі паверхневымі водамі). «Расліны праз каранёвую сыстэму добра засвойваюць ізатопы вальфраму, ітрыю, стронцыю, рутэнію. Гэта прыводзіць да паўторнага паражэньня й пападаньня ізатопаў у ежу людзей праз



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

сельскагаспадарчыя прадукты» (Израэль Ю.А., Экология и контроль состояния природной среды, М. 1989. с. 477). У сакавіку 1989 г. ён зноў пісаў : «...асноўная частка сумарнай дозы апраменьваньня — унутраная, а яе можна зьменьшыць, выключыўшы з рацыёну харчаваньня забруджанае малако, мяса і інш. прадукты» («Советская Белоруссия» 14.03.89.).

Дырэктар навукова-тэхнічанга цэнтра «Радыёмэтр», член-карэспандэнт АН БССР В.Несьцярэнка падлічыў, што жыхары Беларусі разам з прадуктамі могуць атрымліваць у год 0,7—0,8 бэра. І за 70 гадоў унутранае апраменьваньне пры такім узроўні забруджаньня значна павялічыцца.

З гадамі радыяцыйная абстаноўка, па прагнозах вучоных АН БССР, будзе пагаршацца. Плутоній, напрыклад, пры распадзе, выпрацоўвае вельмі моцны біялягічны эфэкт (14 гадоў паўраспаду). Праз 70 гадоў яму на зьмену прыйдзе наступны радыеізатоп, таксама вельмі таксічны. З часам узрасьце небясьпека і ад стронцыю, які глыбей, чым цэзій, уваходзіць у зямлю да карэньняў раслінаў. Стокамі зь зямлі забруджваюцца адкрытыя вадаёмы, і радыенукліды, якія назапашваюцца ў глею рэчак й азёраў, праз рыбу трапляюць у арганізм чалавека... Таму, дзеля сёньняшняга й заўтрашняга дня, нам трэба вярнуцца к таму недалёкаму мінуламу, каб, збавіўшыся ад бясьпечнасьці, зарэентавацца, выбраць сваю лінію самааховы. А каб карціна ядзернай катастрофы стала больш зразумелай, зьвернемся да ўспамінаў спэцыяліста-атамшчыка Рыгора Мядзьведзева. Ён добра ведаў Чарнобыльскую АЭС, бо некаторы час працаваў на ёй. Адразу пасьля аварыі на ЧАЭС меў магчымасьць пабачыць усё сваімі вачыма, пагутарыць з удзельнікамі падзей.

**У ноч на 26 красавіка 1986 г., у 1 гадзіну, 23 хвіл., 40 сек.** пачалося разбурэньне рэактара. Утварыўся магутны паравы выкід. У моцнашчыльным боксе пачаў скаплівацца грымучы газ. Праз 18 сек. пачуліся пасьлядоўна два (тры?) выбухі. У верхняй частцы актыўнай зоны (яе вага 50 000



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

кг) сталася расплаўленьне, а потым выпарваньне ядзернага паліва. Менавіта гэта частка зоны ( 50 000 кг) была выкінута ў атмасфэру. Вецер гэта воблака панёс на паўночны захад праз Беларусь, рэспублікі Прыбалтыкі за межы СССР.

Такім чынам, 50 000 кг ядзернага паліва ў выглядзе дробнадысперсных часьцінак двуокісі урану, высокарадыеактыўных радыенуклідаў ёду-131, плутонію-239, нептунію-139, цэзію-137, стронцыю-90 і іншых радыеактыўных ізатопаў з рознымі пэрыядамі паўраспаду рухаліся над тэрыторыяй Беларусі. Яшчэ каля 70 000 кг паліва было выкінута з пэрыфэрыйных частак актыўнай зоны. Актыўнасьць яе дасягнула 15-20 тыс. рэнтгэн у гадзіну, і вакол аварыйнага энэргаблока адразу-ж зьявілася вялікае радыяцыйнае поле, практычна роўнае актыўнасьці ядзернага выбуху. Выпарыўшаяся частка паліва (50 000кг) утварыла магутны атмасфэрны рэзэрвуар высокарадыеактыўных аэразоляў, якія хутка напоўняліся, разрасталіся і разносіліся ветрам.

Пасьля выбуху сумесі і некалькіх паравых выбухаў здарыўся новы, у цэнтральнай залі станцыі. Ён стаў запалам для атамнага рэактара, які адкупорыўся ў выніку разбурэньняў. У ім знаходзіўся вадарод. Здарыўся апошні й самы страшэнны выбух — грымучай сумесі ў актыўнай зоне. Ён выклікаў пажар даху й выкінуў у атмасфэру агромністую колькасьць актыўных і распаленых часьціцаў ядзернага паліва.

*Для параўнаньня :* *ськінутая на Хірасіму бомба важыла 4 500 кг, г.з. вага,якая, утварылася пры выбуху РР, была роўная 4 500 кг. Рэактар ЧАЭС выкінуў у атмасфэру 50 000 кг выпарыўшагася паліва, стварыў каласальны атмасфэрны рэзэрвуар доўгажывучых радыенуклідаў, роўны 10 бомбам Хірасімы. Плюс 70 000 кг выкінутага на тэрыторыю станцыі паліва, плюс 700 000 кг радыеактыйнага графіту, які асеў ў раёне аварыйнага энэргаблока ( тут можна ўспомніць 600 тыс. ліквідатараў, якія прайшлі праз гэтыя тэрыторыі—*



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*І.К.). Прапорцы разьмеркаваньня РР былі наступныя ( па моцы ветра): на тэрыторыю Украіны з 10 бомбаў упала 1, Расіі—2, а на нашу Беларусь астатнія 7... («Новы мір», №6, 1989) Ад жыхароў Хірасімы мы, аднак, адрозьніваемся тым, што ўсе яны ў свой час былі ўзяты пад апеку. Грамадзтва дало ім усё неабходнае: мэдыцынскую дапамогу, добрае, вітаміназаванае харчаваньне, жыцьцё на чыстай зямлі...*

У дакладзе, зь якім савецкая дэлегацыя выступіла ў Міжнародным Агенцтве па атамнай энэргіі (МАГАТЭ), адзначалася, што ў час катастрофы на ЧАЭС у навакольле паступіла 50 млн. кюры (МКІ) розных радыенуклідаў. Зь іх — 1 млн. кюры цэзію-134; 0,22 млн. стронцыю-90 (доўгажывучыя ізатопы). («Заключение экспертной комисии Госплана СССР от 27. 02.1990») А вось як выглядае карціна забруджваньня ёдам-131 і цэзіям-137. Па ацэнкам замежных спэцыялістаў, савецкія дадзеныя заніжаны ў 1,5-2 разы.

| Крыніца інфармацыі | Ёд-131 | Цэзій-137 |
|---|---|---|
| СССР (дадзеныя, якія прадаставіў МАГАТЭ) | 7.3 | 1.0 |
| Ліверморская лабараторыя (ЗША) | 14.9 | 2.4 |

Пэрыяд выкідаў РР быў даўгім — да 8 травеня 1986 г. Кожныя суткі ў атмасфэру выходзіла па некалькі міліёнаў кюры РР, у тым ліку прадукты дзяленьня урану, бо тэмпэратура ў актыўнай зоне даходзіла да 2500 градусаў па Цэльсію. У Беларусі пад радыеактыўнае апраменьваньне падпалі ў 1986 г. усе вобласьці, акрамя Віцебскай, і у першую чаргу Гомельская і Магілёўская.

Па дадзеным Беларускага гідрамеэралягічнага цэнтру ( на лістапад 1990) цэзіям -137 забруджана 46470км$^2$ або 22,4% тэрыторыі рэспублікі. Зь іх ад 1 да 5 кюры на км$^2$— 29920 км$^2$; ад 5 да 15 — 10170; ад 15 да 40 — 4230 і вышэй 40 кюры на км$^2$ — 2150 км$^2$ («Народная газета» 5.12.90)

— Стронцыям, — адзначыў Старшыня Прэзыдыума Заходняга аддзела УАСГНІЛ (Усесаюзная Акадэмія Сельска-Гаспадарчых Навук ім. Леніна) І Нікітчанка, — забруджаны ў Гомельскай воб. 400 тыс. га, у Магілёўскай —77 тыс. га.

Пэрыяд паўраспаду элемэнтаў радыеактыўнага ёду — 8 дзён, але ёдавая прафілактыка на тэрыторыі рэспублікі праводзілася з спазьненьнем на 8 дзён



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

(пасьля 4 травеня) і толькі ў раёне 30-кіламэтровай зоны. Такім чынам, сотні тысяч людзей атрымалі дозу радыеактыўнага ёду. Увабраны шчытападобнай залозай, ён распаўся ў арганізме, пакінуў свой жудасны знак, які актыўна пачне праяўляцца захворваньнямі праз 7 гадоў пасьля аварыі.

У Беларусі, як ўжо гаварылася, утварыліся зоны з рознай шчыльнасьцю забруджваньня РР. Тэрыторыя з шчыльнасьцю забруджваньня звыш 15 кюры на км$^2$ была названа зонай жорсткага кантролю ( зараз яна завецца— зона пастаяннага кантролю). Само слова «кантроль» даверлівых абывацеляў супакойвала: мабыць, думалі яны, там кантралююць стан здароўя людзей, мажлівасьць пражываньня на гэтай зямлі. (Відаць, для гэтага зона і была так названа?) У ёй засталося жыць каля 200 тыс. чалавек. Зь іх — дзесяткі тысяч дзяцей і падлеткаў. На вясну 1989г. (чацверты год пасьля аварыі) малалетніх было болей за 63 тыс. Зь іх больш 58 тыс. — да 14 гадоў, а 30 тыс. дзяцей, наогул— дашкольнікі! (Пратакол пасяджэньня Бюро ЦК КПБ ад 17. 03.89.)

Зона жорсткага кантролю — гэта ня проста тэрыторыя, дзе на 1 км 2 прыходзіцца звыш 15 кюры. Звыш — гэта і 80, і 100, і 149 кюры на км$^2$. Па афіцыйных дадзеных у 86 населеных пунктах шчыльнасьць забруджваньня тэрыторыі больш 80 кюры на км$^2$.

Паказальнік шчыльнасьці забруджваньня тэрыторыі — лічба сярэдняя. Гэта значыць, што замер ступені забруджваньня праводзіцца ў розных месцах вёскі, у тым ліку і на вымытай асфальтаванай дарозе. Пасьля некалькіх замераў выводзіцца сярэдні, які не паказвае сапраўднага становішча. Таму, напрыклад, і Слаўгарад (Магілёўская воб.) не ўваходзіць у зону жорсткага кантролю, бо афіцыйна ў ім 7 кюры на км$^2$. Аднак на тэрыторыі Слаўгарадскай школы-інтэрната — 16 кюры на км$^2$. (Па патрабаваньні грамадзкасьці школа восеньню 1989 г. перасялена). Сёньня Слаўгарад у сьпісках частковага адсяленьня. У в. Кульшыцы (Слаўгарадскі р-н) афіцыйна значыцца 19 кюры на км$^2$, а ў двары мясцовага радыёляга В.І. Дземянковай — 32—34 кюры на км$^2$.

У в. Чудзяны (Чэрыкаўскі р-н., Магілёўская воб.) — 149 кюры на км$^2$, але вакол яе ёсьць плямы ад 360 да 1000 кюры на км$^2$. У вёсцы ў жніўні 1989 г. знаходзіліся немаўляткі. У суседняй Малінаўцы ў гэты час працаваў дзіцячы



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

садок, у якім было 26 дзяцей, зь іх шасцёра да 2 гадоў.

Да восені 1989 г. ў Чудзянах заставалася грамадзкая жывёла й асабіста пры нас 15 жніўня 1989 г. грузілі для здачы дзяржаве (на мяса!) 135 галоў. Тут на канец 1989 г. кожны жыхар, у тым ліку й дзеці, набралі у сярэднім ( па дадзеных Інстытута радыяцыйнай мэдыцыны) па 30,77 бэра, у Малінаўцы — па 15,71 бэр. Тэарэтычна 4 % з набранага — стронцый-90. Той самы элемэнт, які з арганізму не выводзіцца, а назапашваючыся ў ім, прыводзіцаь да захворваньняў крыві («Советская Белоруссия » 24.10.89).

У падобнай ( па шчыльнасьці забруджваньня) на Чудзяны Наваельні (Краснапольскі р-н . Магілёўская воб.) яшчэ восеньню 1990 г. здавалі збожжа й малако дзяржаве. Праўда, кароў ўжо пачалі здаваць на мяса. Шмат пытаньняў задавалі нам у зоне, але ўсе яны былі падобыя на пытаньне пенсіянера В.М. Клімава з в.Заполяньне Слаўгарадскага р-на: « Мы гадуем парсючкоў, а як павязем на праверку, гавораць, не еш, закапай. А мне закапываць шкода, я ў калгас здаю, плян яму памагаю выконваць. Ад чаго скажыце, мне нельга гэтае мяса есьці, а вам, у горадзе, можна?»

26 красавіка 1986г. загарэўся наш дом, і сёння мяне не цікавіць, хто з Масквы даваў указаньне не ратаваць тых, хто ў гэтым доме, не выносіць зь яго дзяцей. Гэта абавязаны быў зрабіць урад рэспублікі. Урад, які мае сваё прадстаўніцтва ў ААН, які падпісваў Дэклярацыю правоў чалавека, які бязьбедна жыве за кошт народа і таму ня мае права на бязьдзейнасьць. Нацыя апынулася ў сьмяротнай небясьпецы, і пры сыстэме, якая існуе сёньня, адказнасьць за гэта нясе перш за ўсё ЦК КПБ. Менавіта тут прымаліся ( і прымаюцца) рашэньні, якім павінны падпарадкоўвацца і Міністэрства аховы здароўя, і акадэмічныя інстытуты, і мясцовая ўлада, і гаспадаркі. Менавіта ў ЦК КПБ разьмяркоўваюцца сродкі. Тут ідзе назначэньне на кіруючыя пасады. А іх займаюць у першую чаргу людзі зручныя, часта некампэтэнтныя й неадказныя. Такіх лягчэй зрабіць паслухмянымі, такім лягчэй загадаць маўчаць. Так, неадбыўшыйся старшыня праўленьня Беларускага сельскагаспадарчага будаўніцтва пры камітэце Дзяржаграпрома БССР А. Кічкайла назначаўся старшынёй Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэту (жнівень, 1986 г.), загадчык Магілеўскага абласнога здраўаддзела В.Казакоў- заступнікам міністра аховы здароўя па... капітальнаму будаўніцтву. Першы праз 3 гады вярнууся ў Менск і пакіраваў некаторы час Камісіяй па ліквідацыі вынікаў на ЧАЭС, потым стаў заступнікам старшыні рэспубліканскага камітэту па... сельскай гаспадарцы й прадуктах харчаваньня. В.Казакоў—стаў міністрам аховы здароўя.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

Ці не таму ў аварыйнай Магілёўскай вобласьці на вясну 1989г. без жыльля засталося болей за 200 мядсёстраў і 60 лекараў? Ці не таму ў некаторых пасёлках з высокай шчыльнасьцю забруджваньня дзяцей у школы й дзіцячы садок вазілі ў машынах з адчыненым кузавам, бо не было аўтобусаў і сьмеласьці іх для дзяцей ва ўрада патрабаваць! Можа таму ў Крычаве з-за адсутнасьці ўпакоўкі не працаваў цэх па разліву малака, якога так не хапала дзецям, не былі задзейнічаны ўжо апрабіраваныя лініі па пераапрацоўцы мяса, а ў 28-градусную гарачыню (28 С) за 200 км вазіліся мяса і малако ў звычайных машынах і даставуляліся да месца ўжо сапсаваным? Дзеці па 14 гадзінаў у суткі сядзелі ў школе з зачыненымі вокнамі — без паветра, рухаў, прыроды. У сельскай мясцовасьці ня быў арганізаваны продаж самых неабходных прадуктаў харчаваньня, да восені 1989 г. заставаўся незаасфальтаваным кіламетровы участак з Чэрыкава на Краснапольле, і машыны, у тым ліку з прадуктамі, ездзілі ў радыеактыўным пыле. (Стэнаграфічная справаздача з нарады гаспадарча--партыйнага актыву Магілёўскага абкома партыі).

А.Камай і Т.Крутаўцова, якія арганізавалі ў гарадах і вёсках Гомельскай воб. першамайскія дэманстрацыі, а таксама сьвяты, прысьвечаныя Дню Перамогі, на адкрытай мясцовасьці і нават футбольныя матчы (Брагін), якія садзейнічалі таму, каб у забруджаны Брагін, дзе не быў праведзены водаправод, зноў вярталіся сем'і зь дзяцьмі,— атрымалі пасады сакратара ЦК КПБ ( А.Камай) і міністра сацыяльнага забясьпячэньня ( Т.Крутаўцова).

Ужо ў Менску Т. Крутаўцова, амаль адразу пасьля выхаду ў эфір тэлевізыйнай праграмы «Крок», дзе шла гутарка аб становішчы ў забруджаных раёнах, пачала вінаваціць журналістаў ў нагнятаньні страху, у тым, што маўляў іх, кіраўнікоў, абвінавачваюць у вывадзе дзяцей на дэманстрацыю ў год аварыі. На ўсю рэспубліку яна сказала: «Няпраўда, ніякіх дэманстрацый не праводзілі». Хаця яны адбыліся ва ўсіх гарадах і пасёлках Гомельшчыны.

Ці мог урад у той экстрэмальнай сітуацыі што-небудзь зрабіць? Пэўна, мог. Ён абавязаны быў ратаваць людзей, зрабіць усё магчымае, каб захаваць дзяцей ад дадатковага апраменьваньня ў першыя дні пасьля аварыі. Бо тое жудаснае воблака РР некалькі дзён знаходзілася над Менскам і над іншымі гарадамі Беларусі. І пад ім бегалі ні ў чым не вінаватыя нашыя дзеці

Што мажліва было зрабіць? Многае..

(Працяг у наступным нумары)



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Беларусы на інагурацыі

Раніцай 14 студзеня ад БПЦ ў Кліўлендзе ад'ехала машына, якая ўзяла курс на Калюмбус. С.Белая, М.Белямук, Л.Лазар-Ханенка, а. М.Страпко, Я.Раковіч, Я.Ханенка ехалі ў сталіцу штата Агаё, каб удзельнічаць ў інагурацыі Джорджа Вайновіча. Ён а першай гадзіне публічна складаў прысягу й абяцаў, што будзе выконваць абавязкі губэрнатара штата згодна канстытуцыяў ЗША й штата Агаё.

Пасьля прысягі губэрнатар выступіў з прамовай, у якой падкрэсьліў, што ён сын эмігрантаў славянскага паходжаньня. Ён абяцаў, што будзе імкнуцца падтрымліваць нацыянальныя рухі ў Эўропе. Вечарам ён зноў выступіў з прамовай на канцэрце нацыянальнасьцяў. Гэтым разам ён назваў і Беларусь.

Паколькі губэрнатар Джордж Вайновіч паходзіць з Кліўленда, асабіста ведае некаторых людзей зь беларускай калёніі, то можна спадзявацца, што мы маем ў Калюмбусе добрага прыяцеля, які разуме нашыя праблемы й спачувае нам.

# «Землякі »

Сярод яго работ вы не знойдзеце партрэтаў дзяржаўных і партыйных дзеячоў, упрыгожаных ардэнамі й мэдалямі генералаў, славутых кіназорак. Героі Анатоля Кляшчука пераважна простыя сялянскія людзі: земляробы, ганчары, майстры, настаўнікі...Людзі, якія ўсё жыцьцё, сумленна і без гучных слоў, выконвалі абавязкі перад Родам сваім і сваімі людзьмі - Землякамі.

Працуючы фотакарэспандэнтам «Сельской газеты», Анатоль Кляшчук аб'езьдзіў амаль усю Беларусь.Пад час кожнай камандзіроўкі ён шукаў цікавых субяседнікаў, закаханых у сваю працу людзей. Тых, хто сьвята захоўваў спадчыну сваіх бацькоў. Так паступова раслі яго «Землякі».

Зь некаторымі работамі гэтай сэрыі кліўлендцы маглі пазнаёміцца 20 студзеня ў царкве Жыровіцкае Божае Маці. З партрэтаў фотамайстра глядзелі на нас людзі, якія ведаюць, чаго варты бацькоўскі хлеб і матчына мова. Можна многа расказываць пра работы Анатоля Кляшчука, але паглядзеўшы на шчырыя твары яго землякоў, рука мкне пісаць таксама проста: «Выстаўка спадабалася, бо яна аб беларускіх людзях, на якіх зямля наша трымаецца».

Частка прадстаўленых партрэтаў увайшла ў альбом «Землякі». Новая сэрыя майстра будзе знаёміць з жыцьцём беларускай эміграцыі Амэрыкі.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# Беларусь вачыма беларуса

Беларусь. Родная старонка. Забраны край...Колькі-б часу не мінула пасьля расстаньня зь ёю, а стаіць у душы яркі успамін аб ёй. І не пазбавіцца яго, пакуль б'еца сэрца беларуса. Можа таму, так цікавы для эміграцыі кожны чалавек з Бацькаўшчыны. Бясконцыя пытаньні. Ну як-жа там? Як яна, Беларусь, жыве?.. Тыя-ж роспыты чакаюць і таго, хто, шмат гадоў пражыўшы ў далечыне ад Бацькаўшчыны, наведаў родны край. Цікавы аповяд пра Беларусь пачулі прыхажане царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе 17 лютага пасьля нядзельнай службы. Шаноўны госьць з Каліфорніі Юрка Станкевіч расказваў пра сваё нядаўняе падарожжа ў Беларусь і Вільню.

На радзіме Юрка Станкевіч апынуўся ў колавароце праблемаў жыцьця беларусаў. Яго «гіды»: Генадзь Сагановіч, Сяржук Вітушка, Сяргей Дубаневіч і іншыя «нефармалы»— паказалі ў якіх умовах на Беларусі выдаецца незалежны друк, як «захоўваюцца» на Бацькаўшчыне помнікі нашай гісторыі й культуры, як народ, згубіўшы веру ў добрыя абацянкі ўрада, выходзіць на вуліцы зь бел-чырвона-белымі сьцягамі. Шмат цікавых сустрэчаў адбылося ў шаноўнага госьця ў Менскім педагагічным інстытуце замежных моваў, у рэдакцыі газэты «Свабода», у Менскім гарадзкім клюбе «Спадчына», у музэі дойлідства й архітэктуры Беларусі, на БэНэЭФаўскіх мітынгах...

—Але чамусьці мяне ўвесь час не пакідала пачуцьцё, — адзначыў Юрка Станкевіч,— што большасьць людзей паводзіць сябе неяк насьцярожана, стараецца не выдзяляцца ад іншых. Тое самое адчувалася й ў Вільні. Гэты горад усё такі прыгожы. Але Вільня ўжо не наша. Зараз тут не пачуеш беларускай мовы на вуліцах, не пабачыш нашага нацыянальнага мастацтва.

Сваімі ўспамінамі аб падарожжы на Бацькаўшчыну падзялілася і кіраўнічка танцавальнага ансамбля «Васілёк» Ала Орса-Рамана. Яна прыпомніла аб наведваньні васількоўцаў Спаса-Еўфрасіньнеўскай царквы.

—І такую сівую старажытнасьць адчулі мы ў тым храме, такое незабыўнае пачуцьцё пакінулі на нас фрэскі 12 стагодзьдзя, зь якіх паглядала сама Еўфрасіньня, што мы доўгі час хадзілі пад моцным ўражаньнем, — сказала Ала Орса-Рамана. Некаторыя, каб пабачыць старадаўні фрэскавы жывапіс, едуць у Рым, Грэцыю.Тут на Бацькаўшчыне, мы ўпэўніліся, якое багацьце маюць беларусы, якія каштоўнасьці захавала для нас гісторыя.

Пасьля дакладу Юрка Станкевіч адказаў на пытаньні і паказаў апошнія нумары газэты «Свабода», на якую можна падпісацца ў цэнтры «Полацак».



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Царква сьв. Еўфрасіньні была пабудавана беларускімі эмігрантамі ў Рэгенсбургу ў красавіку 1946 года. Гэта жывы матэрыяльны помнік Беларусі на эміграцыі. Перад царквой стаяць настаяцель царквы пратаярэй Мікалай Лапіцкі і будаўляны камітэт.

Аўтар вокладкі Уладзімір Жук.

Мастацкае афармленьне Вялікоднага прывітаньня і п'есы «Сьвечкі на Дзяды» выканаў Янка Салавянюк.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

